+тэлепраграма № 4 (266) 25 студзеня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА



ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

## Урад, што прыме гімн

Прэм'ер Навіцкі па ўсіх прыкметах выглядаў новым Чыгірom. Таму ніхто ад яго нічога асаблівага не чакаў, а абяцаньням будучага "ахвярнага казла" ня верыў. Ад ураду ў прэзыдэнцкай РБ не залежыць сапраўды нічога. Затое Навіцкі ўспрымаўся як такі сабе рэтраньслятар думак і настрояў Адміністрацыі прэзыдэнта, якія з тых ці іншых прычынаў не выпадае абвяшчаць адкрыта. І таму дабрадушны прэм'ер абуджаў пэўныя спадзяваньні апазыцыі, зьняверанай ва ўласнай здатнасьці сілай зьмяніць палітыку ў краіне.

Чым адзначыліся першыя сто дзён ураду? Рост інфляцыі ўдвая і выкліканае гэтым ажыўленьне вытворчасьці пры канцы дэпрэсіўнага году. Масавыя арышты карумпаваных мэнэджэраў. Выкліканьне закупачных цэнаў на сельгаспрадукцыю. Прыняцьце плянаў беларусізацыі працы раённых аддзелаў адукацыі. Працяг ціхага сабатажу саюзнага бюджэту. Больш дэмакратычныя, чым у мінулыя гады, сьпісы намінантаў на атрыманьне дзяржаўных прэміяў. І хто будзе глядзець, што большасьць гэтых рашэньняў не прынятыя ўрадавай камандай, а спушчаныя загадамі Латыпава?

У апошнія месяцы ўлады пачалі зважаць на крытыку з боку грамадзтва. Віцэ-прэм'ер Кабякоў напалохаў усіх пераводам плацяжоў, большых за 200 даляраў, на безнаяўны разьлік, але з-за агню крытыкі рашэньне адклалі. Павялі кальцавую ў Курапаты, але мусілі дэ-факта паставіць будаўніцтва пад грамадзкі кантроль. "Голас душы" зачынілі, але ўжо няма сумневаў, што адчыняць наноў, варта яшчэ трохі ціскануць. Адчуваючы такія павевы, гандлёвая буржуазія павяла атаку на Міністэрства гандлю, якое прыняло рашэньне аб фактычнай манапалізацыі продажу цыгарэтаў. Капіталісты разьлічваюць, што ўрад саступіць нават у сфэры, у якой дзяржава фармальна мае права на манаполію.

Лякмусавай паперкай тэндэнцый далейшага супрацоўніцтва ўраду з грамадзтвам стане прыняцьце гімну РБ. Слова Івана Карэнды ў выбары словаў гімну будзе важыць больш за пазыцыю ўраду, але фармальна рашэньне прымаецца ўсё ж камісіяй пры Міністэрстве культуры. А значыць, калі абтрасецца тытунёвы і іншы пыл, урад Навіцкага застанецца ў памяці як урад, пры якім быў прыняты гімн РБ.

**Барыс Тумар**

## Газэта сустрэчаў

BARCNEWS

У менскім Доме вэтэранаў прайшоў II фэст недзяржаўнай прэсы. Дыплёмамі БАЖу "За адданасьць прафэсіі" ўганараваныя журналіст Валер Шчукін, галоўны рэдактар "Пагоні" Мікола Маркевіч і журналіст газэты Павал Мажэйка, Зьміцер Ягораў зь *Биржи информации*, фотакар Уладзімер Кармілкін ды інш. Асобныя жартаўлівыя прызы ўстанавіў Малады Фронт. "БДГ" была ўзнагароджаная цацачнымі кайданкамі, балёнчыкам з фарбай і кампактам "Новая альтэрнатыва" як "самая маладзёжная газэта", "Беларуская маладзёжная" — тапкамі й кубкам як "самая наша", а "НН" як "самая дзелавая" газэта — гліняным "Дзелавым мужыком" і нататнікам. У пацьверджаньне таго, што "НН" чытае вельмі маладая аўдыторыя, стэнд "НН" на фэсьце служыў сапраўдным "месцам спатканьняў" для маладых наведнікаў.



## Для друку / не для друку

**Сьпякотнае крымскае лета. Маленькі татарскі гарадок. Недзе на бацькаўшчыне ідзе вайна. Яна дае пра сябе знаць газэтнымі загалоўкамі ды размовамі ў курортных кавярнях. Маладога чалавека лёс зводзіць з прыгожай кабетаю, якая зусім ня супраць курортнага раману з сымпатычным хлопцам. Паўднёвыя ночы лятуць хутка. Зваr'яцелы ад гэтых начэй маладзён намагаецца задакумэнтаваць кожнае імгненьне сваіх адкрыцьцяў... Ці будзе надрукаваны інтымны дзёньнік Багдановіча? Старонка 10.**

Сярод тых, хто першымі даслаў подпісы за аднаўленьне праграмы а.У.Завальнюка "Голас душы", Ніна і Янка Брылі, Васіль Сёмуха, Лявон Гуменьнікаў (Менск), Руслан, Ларыса, Яўген і Данута Равякі (Баранавічы), Уладзімер, Галіна, Алена, Юлія Трашчанкі і яшчэ 17 чалавек з Маладэчна, Галіна Аскірка (Смургоні), Уладзімер Трацьцяк (Жлобін), Дзьмітры і Іван Мікалайчукі (Сьветлагорск), Уладзімер Арлоў (Менск), Віктар і Людміла Раманенкі, Вікторыя Бакумава, Валянціна і Георгій Перцавы, Інэса Лейбч зь Менску, Вера Клыкоўская (Пінск). Усяго на сераду раніцу рэдакцыя атрымала 27 сьпісаў з 104 подпісамі.

### Праваслаўная царква пакуль ня выказалася

Паабяцанага на мінулым тыдні афіцыйнага камэнтару ад Беларускага экзарxату Расейскай праваслаўнай царквы з нагоды закрыцьця "Голасу душы" мы так і не дачакалі. У прэс-службе мітрапаліта Філарэта "НН" адказалі, што могуць прапанаваць толькі камэнтар архімандрыта Іаана, сакратара Менскага епархіяльнага ўпраўленьня Беларускага экзарxату Маскоўскага патрыярхату, дадзены ім Кестонскай службе навінаў. Маўляў, калі ўсё гэта, то турбаваць самога ўладыку ня варта. У стужцы Кестонскай службы навінаў, дасланай нам з прэс-службы Філарэта, нам не ўдалося знайсьці ані слова архімандрыта Іаана, якое б тычылася закрыцьця "Голасу душы". Той толькі сказаў, што на Першым беларускім радыёканале ідуць суботняя праваслаўная праграма, а таксама ягоная нядзельная казань.

**Ігнат Чакацкі**

## "Голас душы" мусіць гучаць

**Просім кіраўніцтва Беларускага радыё аднавіць праграму "Голас душы" на першым радыёканале. Яна патрэбная слухачам і Беларусі.**

| імя, прозьвішча | адрас | дата | подпіс |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |

## Канец нафтавай эры

Ісьляндцы хочуць адмовіцца ад імпартных нафтапрадуктаў, замяніўшы іх вадародам. Яго будуць здабываць, расшчапляючы ваду на вадарод і кісларод пры дапамозе электратоку. Калі справа пойдзе так, як заплянавалі ісьляндцы, праз 30 гадоў яны будуць цалкам незалежныя ад сусьветных запасаў нафты й газу. Ажыцьцяўляюць праект "*DaimlerChrysler*", "*Shell*", нарвэскі энэргапрамысловы канглямэрат "*Norsk Hydro*", колькі ісьляндзкіх фірмаў і тамтэйшы ўнівэрсытэт.

Гэта будзе ўжо трэцяя энэргетычная рэвалюцыя ў краіне. Яшчэ на пачатку XX ст. ісьляндцы адмовіліся ад цеплавых электрастанцыяў, разгарнуўшы сетку ГЭС. З 40-х яны пачалі здабываць электрычнасьць пры дапамозе гейзэраў. Але сваёй нафты ў Ісьляндыі няма, а таму езьдзяць ісьляндзкія машыны на прывазным бэнзыне.

Ідэю выкарыстаньня вадароднага паліва выказаў яшчэ ў 70-х прафэсар Рэйк'явіцкага ўнівэрсытэту Арнансан. Цяпер урад нарэшце вырашыў ажыцьцявіць ідэю практычна. На тое ёсьць істотныя прычыны: невялікая Ісьляндыя займае першае месца ў сьвеце па выкідах выхлапных газаў на душу насельніцтва і моцна залежыць ад прывазнога паліва.

Перавагі вадароду відавочныя: згараючы, ён злучаецца з кіслародам і ператвараецца ў звычайную ваду.

Арнансан абяцае, што праз 20—30 гадоў пасьля таго, як будуць распрацаваныя тэхналёгіі выкарыстаньня сонечнай энэргіі, іншыя краіны таксама змогуць пачаць раскладаць ваду і выкарыстоўваць вадарод. Ісьляндыі ж пашанцавала быць першай менавіта дзякуючы наяўнасьці таннай электрычнасьці.

Хаця вадарод — самае распаўсюджанае ў сусьвеце рэчыва, здабываць яго з вады вядомымі нам спосабамі ўсё яшчэ занадта дорага. Электроліз патрабуе вельмі шмат энэргіі. Давядзецца збудаваць і адмысловыя вадародныя запраўкі, што будзе няпростай справай, бо трэба ўлічваць здольнасьць вадароду ўтвараць выбухованебясьпечную сумесь. Таму многія канструктары вадародных матораў вырашылі выпрацоўваць вадарод на борце самой машыны. Не з вады, вядома, а з багатых вадародам хімічных злучэньняў, накшталт прыроднага газу ці мэтанолу. У выніку іхныя машыны ператварыліся ў маленькія хімічныя заводы на колах, сталі дарагімі й цяжкімі. Дый абсталяваньне для вытворчасьці вадароднага паліва не пакідае ў машыне месца ні для чога іншага.

Працяг на старонцы 6.

## навіны гаспадарскія

**ЧАРГА НА АТРЫМАНЬНЕ ЖЫТЛА** зьнікне праз 28 гадоў — калі захаваюцца цяперашнія тэмпы будаўніцтва. Сёньня агулам па краіне сваіх кватэраў ня маюць 570 тыс. чалавек, зь якіх чвэртка чакае ўлазінаў ужо за 10 гадоў. Між тым, 24% будаўнічых трэстаў Беларусі ў сьнежні працавалі са стратамі.

**АЦЯПЛЕНЬНЕ І ГАРАЧАЯ ВАДА** падаражэлі на 10%. Цяпер за камунальныя паслугі давядзецца плаціць недзе на тысячу рублёў больш.

**ПРАЕЗД У ГРАМАДЗКІМ ТРАНСПАРЦЕ** па Менску будзе каштаваць ад 100 да 150 рублёў. Падвышку зробяць у лютым ці сакавіку. І гэта толькі палова ад рэальнага кошту праезду.

**СЯРЭДНІ ПАМЕР ПРЫЗНАЧАНАЙ ПЭНСІІ** у сьнежні 2001 г. склаў 65 тыс. рублёў, ці 76% ад мінімальнага спажывецкага бюджэту пэнсіянэра. Сярэдні памер пэнсіі па ўзросьце склаў 68,2 тыс. рублёў, па інваліднасьці — 60,3 тыс. рублёў, у выпадку страты кармільца — 41,5 тыс. рублёў. Сацыяльная пэнсія складае 26,2 тыс. руб. Рэальны памер месячнай пенсіі, скарэктаванай на індэкс спажывецкіх цэнаў на тавары і паслугі, у сьнежні 2001 г. у параўнаньні са сьнежнем 2000 г. павялічыўся на 22%, а ў параўнаньні зь лістападам 2001 г. зьменшыўся на 5%.

**НЯ МЕНШ ЗА 843 МЛН. ДАЛЯРАЎ** мае атрымаць урад ад продажу акцый 6 прадпрыемстваў нафтахіміі. Гэта наваполацкія "Нафтан" і "Палімір", гарадзенскі "Азот", магілёўскае і сьветлагорскае "Хімвалакно", бабруйская "Белшына". Прэзыдэнт канцэрну "Белнафтахім" Іван Бамбіза цьвердзіць, што дзяржава будзе па-ранейшаму кантраляваць прадпрыемствы, дый інвэстары павінны захаваць усе сацыяльныя ўстановы, што належаць заводам. Змагацца за права валодаць акцыямі найлепшых прадпрыемстваў краіны будуць толькі расейцы — кампаніі "Слаўнафта", "Лукойл", "Ітэра", "Сібур", "Сургутнафтагаз" ды "Амтэл".

**ПІЎЗАВОД "КРЫНІЦА"** можа застацца ў руках дзяржавы. Кампанія "Балтыка" ніяк ня можа дамовіцца з урадам аб кошце кантрольнага пакету акцыяў бровару. Спачатку беларускі бок быў згодны на 13,3 млн. даляраў, потым запатрабаваў удвая болей і вось ужо паўгоду цьвёрда стаіць на сваім. "Балтыка" фактычна прыпыніла рэканструкцыю "Крыніцы" і зьбіраецца зьвезьці адмыслова набытае для яе абсталяваньне назад у Расею.

**АДЛУЧАНАЯ ЭЛЕКТРЫЧНАСЬЦЬ** на 10 прадпрыемствах Гарадзеншчыны. Сярод іх — лідзкая "Лякафарба", гарадзенская "Радыётэхніка" ды "Мастыдрэва". Яны не разьлічыліся за электрычнасьць.

**43 КІЛЯГРАМЫ ЗОЛАТА** купілі грамадзяне і прадпрыемствы Беларусі са жніўня, калі Нацбанк распачаў вольна гандляваць ім. Найбольшым попытам карысталіся зьліткі ў 1 і 5 грамаў — іх прадалі каля 1,5 тысячаў. Кіляграмовых зьліткаў коштам пад 100 тыс. даляраў прадалі ўсяго 13 разоў.

**ТЭЛЕВІЗАРЫ З ПЛОСКІМ ЭКРАНАМ** сёлета пачне зьбіраць "Гарызонт". Нашыя тэлевізары будуць таньнейшыя за эўрапейскія і японскія аналягі.

**РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ** летась атрымалі 92% выпускнікоў ВНУ, да месца працы "даехалі" 72% маладых спэцыялістаў.

**ТОЛЬКІ БЕЛАРУСКІЯ ПЛЯШКІ** можна будзе здаць у прыёмных пунктах. Гэткай пастановай Міністэрства эканомікі хоча падтрымаць айчынных вытворцаў шклатары.

**У КОЖНАЙ КРАМЕ** з красавіка будуць самастойна вызначаць гандлёвую надбаўку на большасьць тавараў, за выняткам харчаваньня і дзіцячай вопраткі. Цяпер максымальная надбаўка складае 30%.

**КАМЭРЦЫЙНЫЯ ШАПІКІ** прыбяруць з цэнтральных вуліцаў сталіцы. Для іх створаць адмысловыя гандлёвыя комплексы ў больш зацішных месцах.

**Сяржук Іваноўскі**



# Ахвяры зімы

Многія любяць зіму — бялюткі рыпучы сьнег, лёгкі марозік. Але часта яна бывае бязьлітаснай: не зважаючы на рухавасьць, "сто грамаў", цёплыя шкарпэткі й швэдры, яна студзіць кроў, пазбаўляе пальцаў, а то й забірае жыцьці. Мой дзядзька, які шабашыў на поўначы Расеі, расказваў, як там штовесну зьбіраюць дзясяткі "падсьнежнікаў" — замерзлых узімку людзей. Ёсьць, на жаль, свае "пралескі" і ў Беларусі.

Рэкорд па колькасьці абмарожаных трымае зіма 1978—79 г., калі тэмпэратура сягала мінус 38. Тады ў Менску на колькі дзён спыніўся грамадзкі транспарт, лопаліся батарэі. Толькі за два дні, 28 і 29 сьнежня 1978 г., у сталічныя больніцы зьвярнуліся паўсотні абмарожаных. А колькі не зьвярнуліся!

Сёлета зіма таксама выдалася лютай. Па краіне ўжо абмарозіліся з паўтысячы чалавек. Але гэта, як кажуць лекары, звычайная штогадовая колькасьць ахвяраў (параўнайце: у Маскве з пачатку году замерзлі на сьмерць 302 чалавекі, у Польшчы – 220 чалавек). Бо галоўны фактар тут ня холад: атрымаць абмаражэньне можна і пры плюсавай тэмпэратуры. Якуб Кашалькоў, кіраўнік Рэспубліканскага апёкавага цэнтру, дзе зараз 30% ложкаў займаюць абмарожаныя, кажа, што галоўная прычына гэтых траўмаў — злоўжываньне алькаголем. У больніцу абмарожаных нападпітку звычайна перадае міліцыя, знаходзячы іх на ходніках, у сумётах, на лаўках. Выклікаюць "хуткую" і простыя мінакі.

Пры лёгкім абмаражэньні, калі скура яшчэ ружовая і ня страціла адчувальнасьці, можна саграваць абмарожаныя часткі цела масажам ці вопраткай. Калі абмарожаныя ўчасткі цела бледныя і здранцьвелыя, гэта не падыдзе. Патрэбны ўнутраны сугрэў гарачым пітвом.

У адным Менску гэтай зімой да дактароў з абмаражэньнямі зьвярнуліся болей за 80 чалавек, зь іх чацьвёра дзяцей. Самаму малому — усяго годзік: маці вынесла яго на двор "пагуляць" ды ператрымала там. Трое чалавек у сталіцы замерзьлі да сьмерці. Апошняй ахвярай стала жанчына, выцягнутая з сумёту пад самы Новы год. Хто яна такая, ня высьветлена. Кабета была яшчэ жывая, але дзьвюхгадзінныя рэанімацыйныя захады выявіліся марнымі.

Чалавек памірае ад перааханаладжэньня, калі тэмпэратура ягонага мозгу апускаецца ніжэй за 24 градусы (звычайна яна трымаецца на ўзроўні 37). Па словах Якуба Кашалькова, прыкладна ў гэткім стане трапіў да іх у шпіталь настаўнік, які, вяртаючыся з гасьцей, вырашыў пайсьці дадому напрасткі праз Сьвіслач ды праваліўся. У палонцы зьнерухомеў і пачаў стыць. Добра, што людзі заўважылі й выклікалі на дапамогу ратавальнікаў.

Калі нават абышлося без ампутацыяў, цяжкае абмаражэньне можа гукнуцца інтаксыкацыяй арганізму ад памерлых тканак, а лёгкае — выклікаць халадафобію і надзвычайную адчувальнасьць абмерзлых калісьці частак цела да маразоў.

Начальнік Галоўнай управы лячэбна-прафіляктычнай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Беларусі Аляксандар Цыбін дае простую параду не абмаражацца — цёпла апранацца. Трэба наплюваць на моду. Ён распавёў, што ў 1930-х жанчыны павальна пачалі хварэць на мэнінгіт з-за таго, што фарсілі ўзімку ў лёгкіх капялюшыках. Гэткія капялюшыкі пачалі зваць "мэнінгіткамі".

Так што беражыце галовы.

**Ігнат Чакацкі**

### Людзі мерзнуць аднолькава

Зь сярэдзіны кастрычніка ў Польшчы насьмерць замерзьлі 270 чалавек (летась — 112). Толькі трэцяя частка зь іх — валацугі і беспрытульныя. Рэшта — проста нецьвярозыя. У Маскве за гэты самы час мароз-ваявода загубіў 314 чалавек. У Беларусі з абмаражэньнямі ў больніцы зьвярнуліся 350 чалавек. Дакладная колькасьць летальных зыходаў не падлічаная.

## лісты ў рэдакцыю

* * *

**Летась у сярэдзіне сьнежня я меў тэлефанаваньне зь Беларускага радыё з прапановай на супрацоўніцтва ў абноўленай праграме як літаратар-перакладчык.**

Сама ж па сабе прапанова прывабная, але насьцярожвала просьба падаць тэкст выступу на папярэдні прагляд, інакш кажучы – на цэнзуру. На радыё, дзе гвалтам душыцца голас душы, гэта зьява натуральная, але супрацоўнічаць з такім радыё – ганебна.

**Васіль Сёмуха, літаратар-перакладчык, праваслаўны, віцэ-прэзыдэнт Беларускага біблійнага таварыства**

### Праграма – да лепшага

**Я катэгарычна за разьмяшчэньне праграмы тэлебачаньня у Вашай газэце.** Нехта кажа – "навошта?". Дык з-за аднаго таго, што яна адзіная праграма, якая друкуецца па-беларуску (апроч "Звязды"). Даўно хацелася мець беларускую праграму... А што да цікавых лістоў – будуць і яны. І тэлепраграма, па-мойму, не перашкаджае падшыўцы газэты. Яна, думаю, зьмешчана да лепшага.

**Антось Цыбуля, Стары Полацак**

### Вільня нашая

**Дзякуй за нумары "НН" – асабліва за два калядныя. Штуршком да напісаньня ліста ўсё-такі стала старонка зь вершамі Чэслава Мілаша.** Хачу вас папрасіць, калі магчыма, хоць найдрабнейшымі літарамі друкуйце побач зь перакладамі вершаў з польскай, расейскай, украінскай тэкст на мове арыгіналу. Скажаце – "НН" для Беларушчыны, а я скажу – і для навучаньня Беларушчыне. Час такі цікавы зараз.

Наконт "плачу над Вільняй", нашага й польскага. Можа, палякам і шкада Вільні, як шкада чужога, якое некалі было прысабечаным, а Вільня – нашая! Дык аддай каму сваё сэрца, руку ці нагу!

А мне асабіста, як і Чэславу Мілашу, добра, што Вільня стаіць, што яе любяць і аб ёй клапоцяцца...

**Аліна Калесьнік, Пінск**

### Міліцыя ахоўвае лебедзяў

**Незвычайны клопат узялі на сябе супрацоўнікі Кобрынскага ГРУУС.** Штораніцы яны спускаюцца пад стары мост на Мухаўцы, дзе вада не замярзае, каб падкарміць хлебнымі акрайцамі ды іншымі прысмакамі чародку белых лебедзяў, што зь нейкае прычыны не паляцелі ў вырай.

**І.Хведаровіч, Берасьце**

### Ахвяры ў Баранавічах

**Вялікія маразы даліся Баранавічам ў знакі.** Аднак і адліга не прынесла палёгкі: людзі сталі часьцей падаць і калечыцца.

Як распавёў загадчык траўматычнага аддзелу Баранавіцкай больніцы Іван Нямера, падчас марозу ў сьнежні — пачатку студзеня абмарозілася прыкладна 10 чалавек, зь іх тром давялося рабіць ампутацыі. У асноўным гэта п'яніцы й бамжы. Цяперака вельмі шмат народу зьвяртаюцца ў больніцу з рознымі траўмамі. Толькі ў апошнюю нядзелю, 20 студзеня, калі не працавалі паліклінікі, у гарадзкі шпіталь зьвярнуліся 44 чалавекі зь пераломамі, страсеньнем мазгоў і ўдарамі.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## з усей краіны

### Шклоўскі Лас-Вэгас

**За Шкловам на Лысай гары пабудуюць культурна-забаўляльны цэнтар.** Кажуць, ідэю падказаў Уладзімер Канаплёў. Будуць кавярні, дамкі для сямейнага адпачынку, канцэртная пляцоўка, спартовая заля. Начальства, відаць, ня ведае, што ў народнай сьвядомасьці Лысая гара — месца гульбішчаў ведзьмакоў і чарцей.

### Магілёўскія сьвятлафоры

**Спэцыялісты Магілёўскага інстытуту прыкладной оптыкі распрацавалі новы сьвятлафор.** Ён спажывае ў 5 разоў меней электрычнасьці, мае гарантаваны тэрмін працы 10 гадоў, а каштуе ўдвая менш за імпартныя аналягі.

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**

### Хварэюць на трыхінэлёз

**У Слоніме — успышка трыхінэлёзу (гэта такія дужа ўедлівыя глісты).** Шпіталізаваныя пяцёра. Яшчэ ў васьмёх лёгкая форма захворваньня. Крыніцай заражэньня сталася мяса ўпаляваных дзікоў, якое не прайшло адпаведнай вэтэрынарнай экспэртызы. Зьявіўся трыхінэлёз і ў Сяньне на Віцебшчыне — там захварэлі пяць чалавек. Каб не заразіцца, трэба правяраць мяса свойскіх і дзікіх жывёлаў у вэтлябараторыях. Летась на трыхінэлёз хварэлі 33 чалавекі, у 2000 г. — 69.

**Паводле "Газэты Слонімскай"**

### Малпы зьмерзьлі

**Берасьцейцы амаль не наведваюць Тульскага зьвярынцу, што стаіць зараз табарам каля Кобрынскага мосту.** Паводле дамовы, госьці з Тулы мусяць прабыць у Берасьці да канца лютага, але невядома, ці датрываюць: грошай няма, а дарма мясцовыя мясакамбінаты карміць зьвяроў ня хочуць. Шчэ адна бяда — беларускія маразы. Найбольш баяцца холаду страўс і малпы.

### У коме — чатыры месяцы

**Два загадчыкі аддзяленьняў Пінскае радзільні часова пазбаўленыя сваіх пасадаў з-за таго, што адна маладая дзяўчына вось ужо чатыры месяцы знаходзіцца ў коме.** Яна не прачнулася пасьля апэрацыі, і мэдыкі пакуль ня могуць даць рады. Прычынай комы сталася, відаць, надмерная доза наркозу перад пачаткам апэрацыі.

### Замарозіла гарэлка

**З пачатку зімы ад перааханаладжаньня на Берасьцейшчыне загінулі 15 чалавек.** Усе сьмяротныя выпадкі адбыліся ў сьнежні. Самая вялікая колькасьць ахвяраў зарэгістраваная ў Баранавічах — 7 чалавек. З абмаражэньнямі збольшага трапляюць нецьвярозыя людзі.

**І.Хведаровіч, Кобрынь**

### Сто літраў сьпірту

**Жыхар Літвы ў сваім аўтамабілі "нісан" зрабіў тайнік, каб вазіць сьпірт.** Зьмяшчалася туды аж сто літраў, адно што закрываўся тайнік, відаць, недастаткова герметычна, бо памежнікі на пункце кантролю "Катлоўка" ўнюхалі «груз». Аўтамабіль і сьпірт трапілі ў Ашмянскую мытню для далейшага разьбіральніцтва. Літовец, мабыць, пойдзе дахаты пешкі.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### У бібліятэцы няма газэтаў

**У Глускую цэнтральную бібліятэку ад Новага году паступае толькі 12 беларускіх газэтаў.** На іншыя не хапае грошай.

**Ігар Кірын, Глуск**

### Столінскія "варагі"

**Старшыня калгасу імя Аляксандра Неўскага (Смургоншына) Зянон Стэльмах запрасіў на працу 5 чалавек аж са Століншчыны, даў ім жыльлё.** Стэльмах кажа, што палешукі добра працуюць, а на сваіх ужо надзеі няма: надта ласыя да гарэлкі.

**Антон Агінскі, Смургоні**

# Яўген Доўгель: “Кантралёры перастараліся, шукаючы карупцыю”

**Паводле інфармацыі Сусьветнага банку, Беларусь па-ранейшаму мае самую нерэфармаваную эканоміку сярод дзяржаваў СНД. Зрэшты, і самую жыцьцястойкую таксама. Прэм’ер Навіцкі абвясьціў: пры ўсіх цяжкасьцях ёсьць 4% росту па агульным аб’ёме вытворчасьці, а ў прамысловасьці — нават болей. Чаму ж тады пачалося закручваньне гаек у прамысловасьці (40-ы ўказ) і хваля арыштаў накрыла дырэктарскі корпус? На пытаньні “НН” адказвае эканаміст Яўген Доўгель, старшыня рады Міжнароднага клюбу дырэктараў, прэзыдэнтам якога да апошняга быў арыштаваны Міхаіл Лявонаў.**



**Яўген Доўгель:** Цяжка зразумець, ёсьць тыя посьпехі ці не, бо, каб нешта вымяраць, трэба мець адзінку вымярэньня. Чым вымяраецца ўсё ў эканоміцы? Мерай вартасьці — грашыма. Аднак нацыянальныя беларускія грошы ў гэтай якасьці не выкарыстоўваюцца, а даляр абваліўся летась аж на 7%. Кіраўнікі прадпрыемстваў не падзяляюць аптымізму нашае афіцыйнае статыстыкі. У людзей няма пэўнасьці ў заўтрашнім дні. Аб працы ўраду Навіцкага нам даводзіцца меркаваць перш за ўсё па ўрадавых справаздачах і статыстычных паказчыках. Альтэрнатыўных эканамічных назіраньняў няма... Але сам Навіцкі як прэм’ер знаходзіцца, я лічу, на сваім месцы, іншай кандыдатуры зараз я ня бачу. Макраэканамічныя рашэньні ён прымае ня горшыя, чым прэм’еры іншых краінаў СНД. Але можна, на маю думку, прымаць куды больш эфэктыўныя навукова абгрунтаваныя эканамічныя рашэньні.

**“НН”: Якія, напрыклад?**

**Я.Д.:** Міжнародны клюб дырэктараў амаль штоквартальна дасылаў ва ўрад за подпісам прэзыдэнта клюбу, нядаўна арыштаванага дырэктара МТЗ Міхаіла Лявонава, прапановы па рэфармаваньні розных напрамкаў беларускай эканомікі. У лістападзе 2001 г., напрыклад, па пытаньнях рэструктурызацыі вытворчых адносінаў, стварэньня на прадпрыемствах умоваў для разьвіцьця камэрцыйнага разьліку, фармаваньня ў рабочых высокіх матывацыяў да працы і разьвіцьця сродкаў вытворчасьці.

Усё гэта рабілася, каб актывізаваць працу нашых прадпрыемстваў, павялічыць іхную канкурэнтаздольнасьць, паспрыяць прытоку інвэстыцыяў. Каб пайшлі інвэстыцыі, патрэбныя дзьве элементарныя рэчы. Па-першае, гарантыя, што інвэстар гэтых сродкаў ня згубіць. Па-другое, ён павінен яшчэ бачыць, што займее ў нас прыбытак, прынамсі, ня меншы, чым дзе-небудзь у Нямеччыне ці Японіі. Трэба, каб з капіталу не вылічаліся аніякія падаткі, пакуль ён не паступіць да нас, і наагул, браць падатак варта, толькі дачакаўшыся прыбытку ад зробленага і прададзенага інвэстарам прадукту. Дзяржава ж, калі паступяць інвэстыцыі, у любым выпадку будзе застрахаваная ад мінусу ў бюджэце. А будуць прыбыткі ад інвэстыцыяў — будуць і дадатковыя паступленьні. Нездарма Мантэск’ё казаў, што падаткі — такая рэч, дзе мудрасьць патрэбная як нідзе. У нас усе хібы ў эканоміцы спароджаныя, лічу, памылкамі менавіта ў падаткаабкладаньні.

**“НН”: Якія прыхаваныя небясьпекі нясуць інвэстыцыі?**

**Я.Д.:** Інвэстыцыі — гэта добра, калі гэта ўкладаньні, уліваньні энэргіі ў прадпрыемства, новыя працоўныя месцы, прыбыткі, падаткі. Скупяць ці ня скупяць беларускія прадпрыемствы? Калі прадпрыемства стала, трэба яго ратаваць. Магчыма — і прадаваць. Лепш за ўсё праз аўкцыён. Але можа быць так, што і з укладзеным замежным капіталам хворае прадпрыемства не акрыяе і не запрацуе. Тады й іншыя замежныя інвэстары будуць асьцерагацца ў нашыя заводы грошы ўкладаць. Калі Менскі аўтазавод прадае за 50 мільёнаў кантрольны пакет акцыяў, то бок палову даходаў, з умовай, што атрымае інвэстыцыі на гэтую суму, — страху тут яшчэ няма. Але ўладальнікі кантрольнага пакету могуць зрабіць тут, у Беларусі, вытворчасьць нізкарэнтабэльнай, каб асноўны даход атрымліваць ня тут, а, скажам, на рухавіках Яраслаўскага заводу: падымаюць кошты на рухавікі і, як гаспадары Яраслаўскага заводу, загадваюць купляць толькі іх, а ніякія іншыя. Таму пры акцыянаваньні патрэбна захаваць кантрольны пакет за беларускім бокам. А яшчэ лепш — вызваць залаты японскі прынцып, калі права ўласнасьці адасабляецца ад права кіраваньня: кіруе самы таленавіты мэнэджэр з задачай атрыманьня як мага большага прыбытку. Тады трэба толькі правільна ацаніць кошты, па якіх будзем прадаваць акцыі нашых прадпрыемстваў. Мы ацэньваем абсталяваньне на зямлі, але асноўнае ня гэта. Напрыклад, мэтар зямлі ў Токіё каштуе каля 200 тысячаў даляраў. Але Японія — гэта ж край сьвету, а ў нас перакрыжаваньне шляхоў, геаграфічны цэнтар Эўропы і палітычны цэнтар СНД. Калі стварыць тут зручныя ўмовы для прадпрымальніцтва, інвэстары папросту ў чаргу ўстануць і МАЗ будзе каштаваць не 50, а 500 мільёнаў даляраў. А можа, і мільярды. Вось аб чым трэба весьці гаворку. А ў цяперашніх умовах рэальны кошт МАЗу, можа, і меньш за тыя 50 мільёнаў, што дае “Сібал”.

А каб стварыць такія ўмовы, прывабныя для інвэстара і выгодныя для сябе, патрэбная рэформа падатковай сыстэмы. Трэба браць падатак з прыбытку, а не на прыбытак, скасаваць падатак на дабаўленую вартасьць. Патрэбныя зьмены ў матывацыі ды аплаце працы, каб прыбытак прадпрыемства наўпрост адбіваўся на заробках кожнага працоўнага. І хай зарплата да ўзроўню спажывецкага бюджэту наагул ня будзе абкладацца падаткам.

Мы павінны даказаць таксама, што ў нас моцная нацыянальная валюта. Для гэтага трэба прывязаць рубель да даляра з падвышэньнем ягонай вартасьці на 1—2% у год. Калі ў сьвеце стане дамінаваць, напрыклад, эўра — прывязаць рубель да эўра. І тады некалькі мільярдаў даляраў, што знаходзяцца зараз у прыватных зьберажэньнях, пэратворацца ў нашую валюту. Яе можна будзе даваць прадпрыемствам у крэдыты на інвэстыцыйныя праекты. Натуральна, з пазыцыяў дзяржаўнай выгады. А пакуль наш рубель ня мае здатнасьці сродку накапленьня. Зьбіраем даляры. І наш Нацбанк хваліцца павелічэньнем золатавалютных рэзэрваў, гэта значыць накапленьнем у дзяржаве даляраў ЗША. Беларускія рублі мусяць быць надзеленыя нацыянальнымі актывамі, акцыямі прадпрыемстваў, а не далярамі — вось што павінна стацца галоўным у валютнай палітыцы дзяржавы.

**“НН”: Як Вы ставіцеся да ідэі стварэньня навукова-прамысловых групаў, што будуць складацца з шэрагу аднапрофільных прадпрыемстваў і навукова-дасьледчых інстытутаў?**

**Я.Д.:** У сьвеце ідзе глябалізацыя. Напрыклад, аўтамабілі нельга рабіць на дробных прадпрыемствах. Нездарма аўтамабілевытворцы яднаюцца, каб выцесьніць канкурэнтаў. Пры стварэньні навукова-прамысловых групаў трэба найперш вызначыць стратэгічныя нацыянальныя прадукты, зь якімі Беларусь здольная лідзіраваць у сьвеце. Гэта могуць быць трактары, тэлевізары, грузавікі, станкі, лён... Напрыклад, з трактарабудаваньнем: ствараем сындыкат, вызначаем у ім галаўное прадпрыемства, якое вядзе стратэгію, падпарадкоўваем сумежныя, прыцягваем інвэстараў. Кажам, што мы і так маем 8%, а будзем мець 18%. І ўсім кіруе мэнэджэр, абраны па конкурсе. Каб нельга было нешта правіць пракурорскім работнікам ці кантралёрам. Кепска спраўляецца — замена. А каб ня стаў злодзеем і клаў усё сваё ўменьне дзеля прыбытку, трэба даць яму якую-небудзь тысячную долю працэнту з даходаў. Тады і дзяржаўныя даходы хутка пойдуць угару.

**“НН”: Вам не падаецца, што чарада адхіленьняў ад пасад кіраўнікоў буйных беларускіх прадпрыемстваў не выпадкова супала з агучанымі нядаўна намерамі зладзіць кампанію па прыцягненьні інвэстыцыяў?**

**Я.Д.:** Я думаю, што кантралёры проста перастараліся, шукаючы карупцыю, каб паказаць, што яны не дарэмна дзяржаўны хлеб ядуць. Каб сапраўдныя экспэрты правяралі, а то кантралёры... Ці можа рашэньні дырэктара аб’ектыўна ацаніць кантралёр? Яны бяруць асобны кантракт: прадавалі прадукцыю па адной цане, праз два месяцы — па ніжэйшай цане. От жа выснова — страты дзяржаве. Такі падыход — суцэльнае дылетанцтва ў рынкавай эканоміцы. Працы прадпрыемства і ягонага кіраўніка карэктную ацэнку даюць толькі агульныя канчатковыя вынікі. Што да Трактарнага, дык за час кіраваньня Лявонава прырост таварнай вытворчасьці склаў там 28%. Завод быў стратным на 5,6 мільёна даляраў у год, а сёньня прыбытковы, рэнтабэльнасьць дейнасьці — 17%. Разам з тым, на Трактарным у кіраўніцтва заробак толькі ў 2,8 разу большы за сярэдні па заводзе. Гэта адна з самых нізкіх заробкавых амплітудаў на беларускіх прадпрыемствах. Хоць зарплаты ня самі сабе дырэктары вызначаюць, а кантракты, па якіх яны працуюць...

Дырэктары яшчэ не панікуюць з-за ўсіх гэтых праверак. Але ўжо пачалі занадта перастрахоўвацца. Да юрыстаў трэба і ня трэба хадзяць. А гэта бюракратызуе бізнэс, робіць яго менш эфэктыўным. Калі кіраўнік прадпрыемства ня будзе мець права памыліцца, рызыкнуць, дык кантрактаў будзе заключацца ня 30 тысяч, а 3. Правяраць тады лёгка стане, і пасадзіць — не прычэпішся. Але дабрабыт прадпрыемства адкуль возьмецца?

**“НН”: Якой вам уяўляецца беларуская эканоміка праз 100 гадоў?**

**Я.Д.:** Пры спрыяльнай і слушнай эканамічнай палітыцы ўжо праз год-тры Беларусь можа паказаць самыя хуткія тэмпы разьвіцьця эканомікі ў сьвеце. Хто нізка падае — высока ўзьлятае. Беларусь мае выдатную стартавую пляцоўку для рэформаў. Каля яны пачнуцца, у сьвеце хутка могуць загаварыць пра “беларускі цуд”.

**Гутарыў Ігнат Чакацкі**

як вы ацэньваеце

# Першыя 100 дзён прэм’ерства Генадзя Навіцкага

### Зьміцер Дзічкоўскі

**дырэктар Інстытуту прыватызацыі і мэнэджмэнту**

Я не заўважыў, каб штосьці ў краіне зьмянілася. Сытуацыя замарожаная, але працаваць можна. Ня ўсё запушчана настолькі, каб не паддавалася выпраўленьню. Была б ахвота.

### Анатоль Багдановіч

**намесьнік дырэктара НДІ эканомікі Міністэрства эканомікі**

Навіцкі зрабіў што і колькі мог. Сфармаваны новы ўрад, міністры і намесьнікі міністраў прызначаныя. А ці атрымаецца што, пажывем — убачым.

### Міхаіл Залескі

**кандыдат эканамічных навук**

Чалавек працуе, стараецца. На новым месцы кожны намагаецца зь лепшага боку сябе паказаць, нешта зрабіць. Але Навіцкі дзейнічае ў старых прававых структурах, па старых правілах. Ён даціскае лімон — адміністрацыйны рэсурс — да канца.

### Франц Вітко

**старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай**

Генадзь Навіцкі прыйшоў на пасаду прэм’ер-міністра з мэтай вырашыць праблемы. Нешта атрымліваецца. Нешта — не. Але няма галоўнага — відавочных крокаў і абяцаньняў рэфармаваць эканоміку. Не ўсьведамляе ўрад і неабходнасьці сацыяльнага дыялёгу. Былі ў часе прэм’ерства Навіцкага і памылковыя захады, ажыцьцёўленыя, апрача ўсяго, з парушэньнямі заканадаўства. Прыкладам, забарона пералічаць прафсаюзныя ўнёскі ў безнаяўным парадку.

### Ігар Велічанскі

**выканаўчы дырэктар Асацыяцыі рэклямных арганізацыяў**

Ой, надта цяжка яму, але ён стараецца нешта зрабіць.

### Аляксандар Сасноў

**былы міністар працы**

Ніякіх значных зьменаў не адбылося. Пры гэтым Навіцкі здае паплечнікаў, тых, на каго меўся абапірацца. Напрыклад, дырэктара Трактарнага заводу Міхаіла Лявонава. Па сацыяльна-эканамічных паказьніках усё як раней: цэны растуць, заробкі падаюць.

### Мікалай Чырскі

**старшыня Беларускай асацыяцыі экскурсаводаў**

А вы лічыце, што нейкія зрухі ёсьць? Ды нічога ён пры ўсім жаданьні ня можа зрабіць, бо ў нас у краіне па-ранейшаму ўсім кіруе адзін чалавек.

### Ігар Высоцкі

**галоўны рэдактар *Белорусской газеты***

У мяне адчуваньне працягу нэасацыялістычнага экспэрымэнту. Па выніках мінулага году ў шэрагу галінаў, у прыватнасьці ў прыярытэтным для нашай эканомікі машынабудаваньні, запасы нерэалізаванай прадукцыі складаюць па колькі месячных аб’ёмаў вытворчасьці. Калі сытуацыя і далей будзе ісьці такім шляхам, многія прадпрыемствы проста стануць. Крэдыторская запазычанасьць удвая перавышае дэбіторскую. Напярэдадні — крызыс плацяжоў. У якасьці пазытыву называюць стабілізацыю курсу рубля, але гэта робіцца ізалявана ад іншых сэктараў эканомікі. На маю думку, структурнае рэфармаваньне і гэты ўрад — несумяшчальныя паняткі.

### Аляксандар Патупа

**прэзыдэнт Беларускага саюзу прадпрымальнікаў**

Не пасьпеў Новы год прайсьці, а вы ўжо на сумныя тэмы! Перш-наперш трэба сказаць, што ўсё перадвызначана тым, што ўрад ня мае стратэгічнай ініцыятывы. Урад Навіцкага — гэткая ж несамастойная група, як і ўрады Лінга ды Ярмошына.

Так яно незалежна ад якасьцяў таго, хто яго ачольвае. Гэта своеасаблівае самаахвяраваньне. У такіх умовах, на маю думку, Генадзь Навіцкі выглядае досыць годна. Станоўчае — удалося зарубіць “кабякоўскі праект” па абмежаваньні наяўных разьлікаў 200 далярамі. Што да нібыта абвешчанай лібэралізацыі, то, мне здаецца, і ў наступныя 100 дзён Навіцкага, і далей будзе назірацца гашэньне ўсіх рынкавых ініцыятываў.

# Пуцін у Варшаве

## Візыт не прынёс зьменаў у адносінах

### БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАНЬНЕ

У першы дзень візыту пра Беларусь уголас згадалі адзін раз — у часе прэсавай канфэрэнцыі. Зрабіў гэта Аляксандар Квасьнеўскі, калі казаў, што Польшча, уваходзячы ў Эўразьвяз, не паварочваецца сьпінай да сваіх усходніх суседзяў — Расеі, Беларусі ды Украіны. Толькі на наступны дзень, па ад'езьдзе Пуціна з Варшавы, у інтэрвію польскаму радыё *"Zet"* Квасьнеўскі сказаў, што пытаньне Беларусі абмяркоўвалася з расейскім прэзыдэнтам ледзь ня ў першыя гадзіны перамоваў.

На пытаньне, ці лічыць Пуцін Лукашэнку дыктатарам, Квасьнеўскі адказаў так: "Не, такія словы ў палітычных размовах папросту не ўжываюцца. Аднак напэўна Пуцін ня лічыць Лукашэнку чалавекам, зь якім лёгка супрацоўнічаць. Яму быў перададзены зварот жонак зьніклых апазыцыйных беларускіх палітыкаў, і я спадзяюся, што, выкарыстоўваючы свае магчымасьці, Пуцін з гэтым разьбярэцца".

### НЕ "ПЕРАЛОМНЫ", А "СЫМБАЛІЧНЫ"

Пуцін і Квасьнеўскі не падпісалі ніводнага важнага дакумэнту. За выключэньнем хіба дамовы пра зборку польскіх аўтобусаў у Калінінградзе. Ня вырашаныя на найвышэйшым узроўні асноўныя пытаньні польска-расейскага эканамічнага супрацоўніцтва: а) пастаўкі газу і пабудова другой лініі газаправоду "Ямал — Заходняя Эўропа"; б) праблема дэфіцыту ў гандлёвым абароце (Польшча купляе ў Расеі энэрганосьбітаў на 3 млрд. даляраў больш, чым экспартуе туды сваіх тавараў). Ці не адзіным вынікам першага за амаль 9 гадоў візыту кіраўніка Расеі ў Польшчу ёсьць "стварэньне клімату" для далейшага разьвіцьця двухбаковых адносінаў.

Квасьнеўскі прапанаваў правесьці ў Калінінградзе саміт з удзелам кіраўнікоў Расеі, Польшчы, Эўразьвязу і краінаў, якія суседзяць з вобласьцю, каб разам вырашыць будучае расейскага анкляву. Пуцін згадзіўся. Непрызнанасьць цяперашняга беларускага кіраўніка можа тут нанесьці непапраўную шкоду нашым нацыянальным інтарэсам. На каралявецкую сустрэчу яго напэўна не запросяць, хоць наша краіна мае свае эканамічныя і палітычныя інтарэсы у вырашэньні калінінградзкага пытаньня.

### "ГЭСТЫ"

Пуцін прыехаў у Варшаву бяз жонкі, з Парыжу, а не напрасткі з Масквы, і ня выступіў у Сэйме. Кампэнсацыяй за гэтыя непрыязныя паводле дыпляматычных канонаў рэчы была перадача польскаму боку дакумэнтаў з расейскіх архіваў, якія датычаць генэрала Уладзіслава Сікорскага.

Пры канцы першага дня візыту Пуцін нечакана выпрашыў ускласьці кветкі да помніка дзеячам Падпольля ды Арміі Краёвай. Гэты помнік сярод іншых ушаноўвае памяць апошняга камэнданта АК Леапольда Акуліцкага, які быў арыштаваны НКВД у 1945 г. і загінуў у савецкім лягеры. Наўзамен Квасьнеўскі ўзяў удзел у сумесным ускладаньні вянкоў да помніка савецкім жаўнерам, што загінулі ў баях за Варшаву.

### ПРАТЭСТЫ

Яшчэ ў першы дзень візыту сябры камітэту "Вольны Каўказ" зладзілі каля расейскага консульства ў Кракаве дэманстрацыю супраць злачынстваў Расеі на Каўказе, трымаючы ў руках транспаранты "Пуцін — забойца", "Маскалі — рукі прэч ад Чачэніі". Потым актывісты "Вольнага Каўказу" спалілі расейскі сьцяг. Паліцыянты адразу затрымалі трох удзельнікаў.



У Варшаве супраць чачэнскай вайны пратэставалі сябры камітэту "Польшча—Чачэнія". Актывісты трымалі чачэнскія сьцягі, сьпявалі чачэнскі гімн, а таксама чачэнскія і польскія патрыятычныя песьні. Але асноўныя польскія тэлеканалы былі такія занятыя тым, што рабілася ў прэзыдэнцкім палацы, што нават "не заўважылі" падзеяў побач — на Замкавым пляцы.

У другі дзень візыту сябры "Вольнага Каўказу" з Познані змаглі патрымаць транспаранты "Пуцін — бэн Ладэн, Чачэнія — Нью-Ёрк" ды "Катынь у 1940. Цяпер — Грозны" роўна 22 сэкунды. Павагаўшыся толькі крыху, паліцыянты ўвапхнулі актывістаў у машыны ды павезьлі ў пастарунак, а выпусьцілі толькі пасьля ад'езду Пуціна. У часе гэткай акцыі ў Гданьску нікога не чапалі.

### ПАЛЯКІ ВІНАВАТЫЯ, ШТО... УВАЙШЛІ Ў NATO

Напярэдадні візыту Пуціна ў Польшчу сацыёлягі абедзьвюх краінаў высьвятлялі, як палякі і расейцы ставяцца адно да аднаго і за што маюць крыўды.

Больш за палову палякаў лічаць, што Расея мусіць мець пачуцьцё віны перад Польшчай за мінулае — за агрэсію ў верасьні 1939 г. (44%), Катынь (35%), пэрыяд сталінізму ды залежнасьці ад СССР (26% — тут і вышэй падаецца колькасьць тых, хто лічыць Расею вінаватай).

85% палякаў кажуць, што іхная краіна перад Расеяй ні ў чым не вінаватая. А трацiна расейцаў лічаць, што палякі мусяць пачувацца вінаватымі найперш за тое, што дазваляюць дзейнічаць на сваёй тэрыторыі чачэнскім інфармацыйным прадстаўніцтвам (22%), што недастаткова ўдзячныя Расеі за вызваленьне ад фашыстаў (21%) і што далучыліся да *NATO* (14%). Цікава, што Лжэдзьмітрыя ці, прыкладам, ганебную паразу ў савецка-польскай вайне 1920 г. згадалі адзінкі з апытаных расейцаў.

Як паказвае апытаньне, мінулыя крыўды не ўплываюць на дзень сёньняшні. Больш за палову палякаў (56%) разглядаюць Расею як партнэра. Кожны трэці паляк ставіцца да расейцаў "з сымпатыяй". Гэтаксама і расейцы — больш за 60% апытаных бачаць у Польшчы партнэра і саюзьніка і толькі 1% — ворага. Больш за палову палякаў хацелі, каб Пуцін прыехаў.

### ДВА ДНІ ТАБУ НА ВОСТРЫЯ МОМАНТЫ

Па ўсім было відаць, што палякі клапоцяцца, каб Пуцін прыехаў і каб у яго засталося ад візыту добрае ўражаньне. СМІ, якія толькі й казалі пра сур'ёзныя праблемы ў расейска-польскіх адносінах, раптам змоўклі, калі прыехаў Пуцін. Ні ў тэленавінах, ні ў газэтах ня згадвалася пра словы Квасьнеўскага, які намякнуў, што было б добра, каб Пуцін папрасіў прабачэньня за Катынь. Ня згадвалася й пра рознае стаўленьне да чачэнскай вайны, да беларускай сытуацыі, і нават амаль не ўспаміналі пра галоўнае — пра газ. Прэсавая канфэрэнцыя была цалкам зрэжысэраванай. Прэсавы сакратар Пуціна нахабна даваў слова толькі "патрэбным" журналістам. Пытаньні выглядалі падрыхтаванымі, бо амаль усё, пра што пыталіся, колькі хвілінаў таму ўжо сказалі прэзыдэнты ў часе сваіх прамоваў.

*"Oni tutaj chcą rządzić polskimi dzennikarzami! W dupie mam taką konferencję prasową"*, — кінуў адзін польскі журналіст, пакідаючы залю.

Уразіла, што некаторыя расейскія журналісты, якія прыехалі ў Варшаву, увогуле не арыентаваліся ў польскіх падзеях і нават ня ведалі, што такое Сэйм.

### КРАКАЎСКАЕ ПРАДМЕСЬЦЕ

Кракаўскае прадмесьце, дзе знаходзіцца палац польскага прэзыдэнта, а таксама шпраг вуліцаў на шляху пуцінскага "мэрсэдэсу" (гэты вялізны чорны зь сіняватым адлівам лімузын адмыслова прывезьлі з Масквы) былі перакрытыя, і варшавякі, якія апошнім часам і так пакутуюць ад аўтамабільных затораў, зляваліся на Пуціна. Ахвотных паглядзець на расейскага прэзыдэнта вакол прэзыдэнцкага палацу не было. Хіба, можа, паліцыя нікога не пусьціла.

Так ці інакш, але па дарозе ў цэнтар сталага веку дзядзька, што сядзеў побач са мной у аўтобусе, сказаў: "Але ж, халера, дэмакраты ў нас апошнім часам пабольшала — калісьці сустракаць Брэжнева мяне ў працоўны час з заводу прыгналі..."

**Аляксей Дзікавіцкі, Варшава—Познань**

## навіны за тыдзень

### Лукашэнкаў рэжым застаецца непрымальны



**У панядзелак 21 студзеня аўстрыйскі сацыяліст Пэтэр Шыдэр быў абраны старшынём Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы, зьмяніўшы на гэтай пасадзе брытанскага лорда Расэла-Джонстана.** У сваёй інаўгурацыйнай прамове ў Страсбургу новы старшыня сказаў: "Беларусь застаецца праблемай. Пазыцыя тамтэйшых уладаў не зьмянілася і застаецца абсалютна непрымальнай з пункту гледжаньня стандартаў дэмакратыі і правоў чалавека, але ізаляцыя мала спрыяе зьмяненьню статусу-кво. Асамблеі варта працягваць праводзіць асьцярожную палітыку, балянсуючы паміж падтрымкай прагрэсіўных сілаў і асуджэньнем недэмакратычнай пазыцыі цяперашняга рэжыму".

### Беларусаў Польшчы перапішуць

**У другой палове наступнага году ў Польшчы адбудзецца перапіс насельніцтва.** Гэта першы пасьля вайны перапіс, сярод пытаньняў якога ёсьць і нацыянальнасьць.

### Эўропа — вайсковы пігмэй

**Генэральны сакратар *NATO* Джордж Робэртсан у панядзелак заявіў, што Эўропа зьяўляецца пігмэем у вайсковым сэнсе і павінна павялічыць асыгнаваньні на абарону, каб дараўнацца па вайсковай магутнасьці Злучаным Штатам.** Робэртсан абураўся, што многія эўрапейскія ўрады зусім мала выдзяляюць на абарону, "марнуюць сродкі на захады, якія ня служаць ні іх бясьпецы, ні бясьпецы Эўропы, ні нашым шырэйшым супольным інтарэсам".

### І ў Косаве немец

**Кіраўніком часовай адміністрацыі ААН у Косаве прызначаны немец Міхаэль Штайнэр.** Ён замяніць на гэтай пасадзе датчаніна Ханса Хекерупа, які падаў у адстаўку летась у сьнежні. Штайнэр — экспэрт па краінах Усходняй Эўропы і Балканах. Раней ён быў паслом Нямеччыны ў Чэхіі і дарадцам канцлера Шродэра па замежнапалітычных пытаньнях.

### Падпальшчыкаў рэабілітавалі

**Польскі суд рэабілітаваў сяброў падпольнай арганізацыі *"Ruch"*, якія ў чэрвені 1970-га зьбіраліся спаліць музэй Леніна ў мястэчку Паронін.** Шасьцёра "рухаўцаў" атрымалі тады ад 4 да 7 гадоў турмы.

### Ініцыятыва "Лігі польскіх сем'яў"

**Правая партыя "Ліга польскіх сем'яў" дамагаецца, каб Сэйм прызнаў сталінскія рэпрэсіі супраць палякаў у 1944—45 г. "злачынствамі супраць чалавецтва".** Зварот падтрымалі яшчэ дзьве парлямэнцкія фракцыі.

### Баўгарыя і Румынія таксама трапяць у ЭЗ

**Днямі прадстаўнікі Эўразьвязу абвясьцілі, што Баўгарыя і Румынія (самыя бедныя краіны-кандыдаты ў Зьвяз) могуць трапіць у шэрагі арганізацыі ўжо ў 2008 г.** Для гэтага ў ЭЗ ёсьць патрэбныя фінансавыя рэсурсы. Праўда, афіцыйна дата далучэньня Баўгарыі ды Румыніі да Зьвязу невядомая. У 2004 г. у ЭЗ увойдуць Кіпр, Чэхія, Эстонія, Літва, Латвія, Мальта, Славаччына, Славенія, Польшча і Вугоршчына — пры ўмове, што да канца гэтага году яны пасьпяхова скончаць свае перамовы з Брусэлем.

### Кампэнсацыя за званы

**Зь нямецкага фонду, што выплачвае кампэнсацыі ахвярам нацызму, атрымае грошы і чэскі каталіцкі касьцёл** — за касьцельныя званы, адабраныя і перапляўленыя нацыстамі на гарматы ў часе другой сусьветнай вайны.

**Язапат Змысла**

## аб усім патроху

### Папа кананізуе ацтэка

**Папа Рымскі Ян Павал II наведае ў ліпені 2002 г. Мэксыку, каб кананізаваць Хуана Дыега, які 12 сьнежня 1531 г. бачыў смугласкурую Панну Марыю, што зьявілася яму ў ацтэцкім храме.** Рашэньне пра яго кананізацыю Ватыкан прыняў пасьля таго, як у 1990 г. Хуан Дыега зьдзейсьніў цуд: мэксыканка зьвярнулася да яго з малітвай уратаваць жыцьцё сыну, што зваліўся з даху і праламіў сабе чэрап. Малітва дапамагла.

### Прынцэса будзе лячыць людзей

**Нарвэская прынцэса Марта-Люіза з роду Шлезвіг-Гальштэйн-Сёнэбарг-Глюксбург вырашыла адмовіцца ад тытулу "Яе каралеўская высокасьць".** У лютым яна адчыняе ў Осла фізіятэрапэўтычную клініку. "Навошта мэдыку каралеўскі тытул?" — лічыць Марта-Люіза.

### Латышы паставяць помнік Цою

**Кіраўніцтва Семскай валасьці Латвіі вырашыла ўсталяваць мэмарыяльны камень на месцы гібелі Віктара Цоя.** 29-гадовы лідэр гурту "Кіно" разьбіўся на аўтамабілі 15 жніўня 1990 г. на шашы Юрмала—Талсі.

### Дыскатэкі – зона наркаманіі

Віленская газэта ***Respublika*** піша, што кожны другі наведнік літоўскіх клюбаў і дыскатэкаў ужывае наркотыкі. Перадусім гэта марыхуана, якую паляць амаль 47% апытаных. У асноўным шайтанскім зельлем бавяцца сталыя наведнікі.

### Здарэньне ў прыбіральні

**Амэрыканцы, якая ляцела "Боінгам-767" скандынаўскай авіякампаніі *"SAS"*, давялося большую частку падарожжа правесьці ў туалеце.** Скарыстаўшыся ўнітазам, жанчына націснула на кнопку змыву, паленаваўшыся перад гэтым устаць. Сыстэма вакуумнай ачысткі ўнітазу прысмактала жанчыну да сядзеньня і пратрымала ў такім становішчы да канца палёту. Вызваліць пасажырку ўдалося толькі пасьля пасадкі.

### Сэксуальная інтэграцыя з Эўропай

**Летась у эўрапейскія краіны ў сэксуальнае рабства былі прададзеныя амаль 120 тысячаў дзяўчат і кабет у веку ад 16 да 35 гадоў.** Гэткія лічбы падае Міжнародная арганізацыя міграцыі. Найбольш прастытутак прыяжджае ў Эўропу зь Нігерыі, Альбаніі ды Румыніі. Далей па сьпісе ідуць пасавецкія краіны — Малдова, Украіна, Расея. На сёмым месцы стаіць Беларусь, апярэдзіўшы сваіх паўночных суседак Літву і Латвію. Па зьвестках Інтэрполу, ключавымі краінамі ў гандлі нявольніцамі зьяўляюцца Польшча і Румынія. Праз Польшчу жывы тавар трапляе ў Нямеччыну й далей на Захад. Румынія зьяўляецца транзытнай зонай для "экспарту" на Балканы, у Італію ды на Блізкі Ўсход.

**Я.З.**

Татарстан

# Незалежнікі не схіляюць галавы

**Кіраўніку Татарскага грамадзкага цэнтру (ТГЦ) у Набярэжных Чаўнах Рафісу Кашапаву пагражае пяць год турмы за зьнявагу расейскай дзяржаўнай сымболікі і арганізацыю шэрагу несанкцыянаваных акцыяў пратэсту супраць вайны ў Чачэніі і расейскага дыктату ў Татарстане. Улады краіны з аднаго боку дазваляюць судзіць Кашапава, а зь іншага рэгулярна падсілкоўваюць грашыма рэгіянальныя аддзяленьні ТГЦ, фінансуюць Сусьветны кангрэс татараў. У сіле татарскіх арганізацыяў прэзыдэнт Шайміеў бачыць заруку абароненасьці ад няспыннага ціску з Масквы.**

Адміністрацыя Пуціна па-ранейшаму спрабуе ўзяць пад кантроль розныя сэктары эканомікі Татары, адначасова аслабляючы нацыянальныя пачуцьці насельнікаў гэтай багатай рэспублікі на Волзе, дзяржаўнасьць якой мае тысячагадовую традыцыю. Пуціну ўдалося ўзнавіць кантроль над пракуратурай і службай бясьпекі. Аднак усе прыбытковыя галіны эканомікі застаюцца пад рукой Шайміева. Працягвае расьці і доля татараў у насельніцтве. У 1990 г. іх было менш за палову, цяпер — каля 53%. Масква зьмірылася і зь пераводам татарскай мовы на лацінскую


Рафіс Кашапаў

графіку.

Пра Рафіса Кашапава ўпершыню загаварылі, калі ён у кастрычніку пяцьцю аўтобусамі прывёз у сталіцу Татарстану сваіх землякоў на мітынг-ушанаваньне памяці дзясяткаў тысяч татараў, што загінулі ў 1552 г. падчас штурму Казані войскамі Івана Жахлівага. Дэманструючы сваё стаўленьне да Масквы, Кашапаў спаліў расейскі герб і пудзіла цара.

Лютаўскае (1994 г.) пагадненьне паміж Шайміевым і Ельцыным, згодна зь якім Татарстан перадаў Маскве частку паўнамоцтваў, татарскія нацыяналісты дагэтуль лічаць здрадай, а не кампрамісам. У краі заканадаўча замацаваная наяўнасьць дзьвюх дзяржаўных моў — татарскай і расейскай, абавязковых для вывучэньня ў школах.

ТГЦ выступае за поўную незалежнасьць ад Масквы і ўтварэньне абапал Волгі рэспублікі Ідэль-Урал, якая аб'ядная б татараў, башкіраў, чувашоў, удмуртаў, марыйцаў і мардвінаў.

У Казані, дарэчы, і беларускіх татараў лічаць сваімі суродзічамі, свайго роду дыяспарай, дарма што ніякай сувязі, нават з пункту гледжаньня крыві, паміж нашымі татарамі і валжанскімі булгарамі няма. Зрэшты, дзякуй ураду Шайміева за фінансаваньне шэрагу гістарычных выданьняў беларусаў-мусульманаў.

Рафіс Кашапаў кажа, што турмы не баіцца. І сьпяшаецца да магчымага зьняволеньня разгарнуць новую маштабную кампанію за прызнаньне роўных правоў ісламу й праваслаўя. ТГЦ патрабуе, каб жаўнерам-мусульманам у расейскім войску дазволілі хаця б раз на дзень чытаць малітву-намаз. Пакуль яны няэзменна атрымліваюць адмову. На думку Кашапава, любая дыскрымінацыя толькі ўмацоўвае застарэлыя крыўды.

А крыўдаў хапае. Дастаткова згадаць распаўсюджаны сярод татараў стэрэатып расейцагультая, якому абы выпіць. Або пагардлівую татарскую прымаўку "сьмярдзіць, як стары расеец". "Хто сказаў "А", той павінен сказаць і "Б" — кажа Кашапаў. Гэтае "Б" можа выявіцца непрыемным.

**Сяргей Рак**

## Супэркабура для "макарава"

**Беларускія спэцыялісты зрабілі самую "хуткую" ў сьвеце кабуру.** Каб дастаць зь яе зброю, дастаткова 0,02 сэкунды. Звычайныя айчынныя вырабы дазвалялі зрабіць стрэл за 1,2 с, а найлепшыя амэрыканскія — за 0,6 с. Новая супэркабура прызначаная для пісталета Макарава, які дагэтуль застаецца самай папулярнай мадэльлю ў краінах былога СССР.

## Спынілася фінансаваньне "Крыніцы"

**Здадзеныя ў друк №1, прысьвечаны А.Пысіну, а таксама падвойны №2—3, прысьвечаны Уладзімеру Арлову, пэўна ж выйдуць.** Бо ўжо праплачана за паперу і друкаваньне. Лёс астатніх нумароў пад пытаньнем. Начальнік інфармацыйна-аналітычнага ўпраўленьня пры Міністэрстве інфармацыі Натальля Аляшкевіч паведаміла, што пытаньне пра зьнясьце беларускіх часопісаў зь фінансаваньня вельмі балючае. У Міністэрства інфармацыі папросту няма грошай, каб фінансаваць усіх. Гэта тычыцца не толькі "Крыніцы". Прынамсі, на разавыя субсыдыі "Крыніца" можа разьлічваць, запэўніае яна. Канчаткова пытаньне вырашыцца ў чацьвер 24 студзеня на нарадзе ў Міністэрстве інфармацыі, куды запрошаныя заснавальнікі часопісу ды галоўная рэдактарка Ала Канапелька. Самі ж супрацоўнікі часопісу думаюць пра магчымасьць ператварэньня часопісу ў незалежны — пэўна, больш вальнадумны.

## Арыштаваныя гандляры ўранам

**Супрацоўнікі Ўпраўленьня КДБ па Менску й Менскай вобласьці затрымалі чальцоў міжнароднай злачыннай групоўкі, што спрабавала збыць тут паўтара кілаграма ўрану за 250 тысячаў даляраў.** У групоўку пад выглядам іншаземца быў засланы супрацоўнік спэцслужбаў. Уран, выстаўлены на продаж, мог уяўляць небясьпеку для здароўя людзей, што выпадкова знаходзіліся побач зь месцам, дзе ён захоўваўся.

## Выратавальнікі будуць лятаць

**Пры МНС будзе створанае аэрамабільнае і кіналягічнае аддзяленьні.** Шрубалёты (блізу дзясятка) мусяць папярэджваць лясныя і тарфяныя пажары, сабакі — шукаць людзей.

## Фонд Культуры поўны задумаў

**У Доме дружбы прайшоў пленум Беларускага фонду культуры.** Як сказаў яго старшыня Ўладзімер Гілеп, Фонд культуры маркуе ініцыяваць стварэньне Беларускага краязнаўчага таварыства з уласным часопісам "Край" (што ў Магілёве ужо выдаюць альманах пад такой назвай, ён, відаць, ня чуў), а таксама грамадзкага камітэту па ахове помнікаў гісторыі й культуры. Апроч таго, Фонд культуры пляное правесьці першы беларуска-нямецкі моладзевы фэстываль камэрнае музыкі, выдаць на трох мовах паэму Якуба Коласа "Новая зямля", каляровы альбом "Жывапіс эпохі Барока ў Беларусі" і кнігу нарысаў Ігната Дамейкі "Маё падарожжа".

**Э.Л.**

## Жарсьці вакол Сафіі

**Полацкі гарвыканкам і абласныя ўлады пратэстуюць супраць перадачы Полацкай Сафіі праваслаўнай царкве.** У лістах, накіраваных ва ўрад, яны пералічаюць аб'екты, перададзеныя за апошнія дзесяць год РПЦ, называюць сумы, выдаткаваныя з гарадзкога ды абласнога бюджэту на рэстаўрацыю (так, Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр каштаваў бюджэту 180 млн. рублёў), пералічаюць таксама аб'екты, якія плянуецца перадаць Полацкай праваслаўнай япархіі ў хуткім часе (у прыватнасьці, на патрэбы царквы перадаецца адзін са школьных будынкаў).

## Вуліца сьв. Эўфрасіньні

**Полацкі гарсавет перайменаваў вуліцу Фрунзэ ў вуліцу Эўфрасіньні Полацкай.** Побач зь ёй месьціцца Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр, куды ідуць паломнікі да мошчаў сьвятой Эўфрасіньні.

**Палачанін**



# Канец нафтавай эры

**Працяг са старонкі 1.**

Ісьляндцы хутка збудуюць першую вадародную запраўку. Вадарод будзе выпрацоўвацца непасрэдна на ёй, а электраэнэргію падвядуць з экалягічна чыстых электрастанцыяў. Першымі кліентамі гэтай запраўкі будуць усе 80 пасажырскіх аўтобусаў Рэйк'явіку. Экспэрты разглядаюць магчымасьць пераводу на вадарод і ўсіх рыбалоўных траўлераў, якія сёньня мусяць карыстацца прывазным мазутам. Рыбалоўства прыносіць Рэйк'явіку 70% усіх прыбыткаў, а таму ісьляндцы дужа хацелі б стаць і ў гэтай галіне цалкам незалежнымі ад цэнаў на нафту. Ісьляндцы бачаць у пазбаўленьні ад нафтавай залежнасьці ці не галоўную мэту праекту.

Магчыма, мы нават дажывем да таго часу, калі ўвесь сьвет перастане з трымценьнем у сэрцы сачыць за цэнамі на нафту. У агляднай будучыні нафтавай эры прыйдзе канец — як калісьці вугальнай. Ісьляндцы знайшлі выйсьце у выкарыстаньні вадароду, немцы ставяць на сваіх дахах сонечныя батарэі, беларусы сеюць і цёнуць рапс.

**Сяргей Радштэйн**

калёнка Алеся Бяляцкага

# Нефармалы

Незарэгістраваная Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў сабрала за "круглым сталом" праваабаронцаў і прадстаўнікоў няўрадавых арганізацыяў, якія пацярпелі ад уладаў. Абмяркоўвалі, як разам абараняцца ў выпадку неабгрунтаваных рэпрэсіяў з боку дзяржавы, дзяліліся досьведам.

Рэдактар крычаўскай газэты "Вольны горад" Сяргей Няроўны распавядаў, як яны падпіралі дзьверы кватэры, дзе месьцілася рэдакцыя, дошкай-саракоўкай і жалезнай батарэяй, калі з вуліцы міліцыянты лупілі ломікамі ў дзьверы, тлумачачы, што хочуць спраўдзіць нумары кампутарнай тэхнікі — ці ня скрадзеная.

Старшыня гомельскіх "Грамадзянскіх ініцыятываў" Віктар Карніенка, у якога зараз праз суд канфіскуюць кампутарную тэхніку, расказваў пра тое, як тлумачыў судзьдзі, што такое кампутарная дыскета, расказваў яе, распавядаў, як на ёй можна пераносіць інфармацыю. Судзьдзя недаверліва хітала галавой. Усё паказвае на тое, што ўлада пабагацее на шэсьць кампутараў, якія належалі "Грамадзянскай ініцыятыве". Падлічыць бы толькі расходы гэбістаў, падатковай інспэкцыі, сьледчых і суду на гэтую "апэрацыю" — мабыць, можна было б купіць усе дваццаць шэсьць.

Задзіночаньне беларускіх студэнтаў Мінюст закрыў за тое, што студэнты няправільна правялі зьезд у 95-м, хоць сам жа перарэгістраваў іх у 99-м. А яшчэ за тое, што на дзьвярах офісу была налепка зь літарамі ЗБС, а не РГА ЗБС. Нават пракурор на судзе прасіў не закрываць іх "за малазначнасьцю" — дзе ж табе, закрылі.

Замежнікі, калі ім пра гэта расказваеш, ня верраць, сьмяюцца: маўляў, ня можа быць, каб дзяржава сваіх грамадзянаў так душыла.

У Воршы, распавядаў Віктар Андрэеў, старшыня незарэгістраванага Цэнтру Філона Кміты, велізарныя праблемы з рэгістрацыяй. Паводле закону, каб зарэгістравацца, арганізацыя мусіць мець юрыдычны адрас у нежыльлёвым фондзе, а па прадпрыемствах вертыкаль дала негалосны загад — "ненадзейным" не даваць. І гэтак ня толькі ў Воршы, а па ўсёй Беларусі.

А Мінюст ужо паўгоду не рэгіструе ўвогуле ніякіх арганізацыяў. Камісія па рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў, якую ачольваў быў Замяталін, зь лета не працуе. То і рэгістрацыі няма...

Удзельнікі "круглага стала" прынялі зварот да Мінюсту з заклікам аднавіць рэгістрацыю, бо незарэгістраваная дзейнасьць ягонымі ж законамі і забароненая. Гэтаксама пастанавілі стварыць рабочую групу зь юрыстаў, якія будуць дапамагаць грамадзкім арганізацыям, што зазналі дзяржаўны ўціск.

Улада адбівае ў няўрадавых арганізацыяў жаданьне рэгістравацца. Значная іх частка працуе і так. Вось "Зубр" нядаўна адзначыў сваю першую гадавіну. Хутка "нефармалаў", відаць, зробіцца больш, чым зарэгістраваных ініцыятываў.

**Алесь Бяляцкі**

## Зацьвердзілі дэлегацыю ў Солт-Лэйк-Сыты

**Зацьверджаны склад алімпійскай зборнай, што паедзе ў Солт-Лэйк-Сыты, — усяго 61 спартовец.** Найбольш сярод іх хакеістаў — 23 чалавекі, а таксама 14 лыжнікаў, 10 біятляністаў, 5 фрыстайлістаў, 4 канькабежцы, 2 фігурысты, па аднаым спартоўцу з шорт-трэку, лыжнага дваябор'я, скачкоў на лыжах з трампліну. Яшчэ едуць 20 чалавек рэзэрву, 15 прадстаўнікоў СМІ (незалежныя выданьні прадстаўленыя толькі *Прессболом*). Кіраўніком дэлегацыі прызначаны міністар спорту і турызму Юрген Ворсін. Паедуць у сталіцу мармонаў таксама рэктар БДУ Аляксандар Казулін як прэзыдэнт фэдэрацыі фрыстайлу і "хрыстафораўвец" Анатоль Друскі.

спорт

# Пралёт "Белшыны"

**Бабруйская "Белшына" крайне няўдала выступіла на 10-м "Кубку Садружнасьці" ў Маскве, турніры, дзе гуляюць пераможцы нацыянальных футбольных чэмпіянатаў былога СССР.**

Разам зь беларусамі ў групе былі эстонская "Флёра", туркмэнская "Ніса" і кыргызкі СКА-СПА. Каб трапіць у чвэрцьфінал, трэба было заняць хоць бы другое месца. Беларусы занялі чацьвертае: у суботу прайгралі эстонцам 3:1, у нядзелю туркмэнам 2:1, а ў аўторак згулялі ў нічыю (1:1) з кыргызамі. Гучная апляўха, што сьведчыць пра ўзровень беларускага клюбнага футболу. За саветамі каманды Эстоніі ды Туркмэніі гулялі ў другой лізе чэмпіянату СССР.

Ад старту "Белшыны" ў кваліфікацыі Лігі чэмпіёнаў (першыя матчы ў сярэдзіне ліпеня) не прыходзіцца шмат чакаць.

**Э.Л.**







Анатоль Кляшчук

# Шчучынская ярдань

Шчучынскі протаярэй Міхаіл Велісейчык вось ужо чацьверты год запар не абмяжоўваецца на Вадохрышча асьвячэньнем студняў ды водаправоднай вады ў бочках і баках. Перш-наперш ён сьвенціць ваду ў мясцовай ярдані — возеры, што ў цэнтры Шчучына. Сёлета маразы надзейна скавалі ярдань, і сьвяточны хрэсны ход сьмела рушыў па лёдзе да палонкі ў форме праваслаўнага крыжа, якую загадзя высеклі рыбакі.

Атмасфэра маленькага цуду: людзі чакаюць моманту, калі ўся вада пад лёдам, пад іхнімі нагамі, раптам станецца сьвятой. Пасьля асьвячэньня вернікі імкнуцца да незвычайнага крыжа ў лёдзе, дакранаюцца да вады, не зважаючы на мароз, акрапляюць твары. Разыходзячыся па хатах, адломваюць галінкі хвояў, што стаяць абапал Сьвята-Міхайлаўскай царквы. Такая традыцыя. Дома гэтыя галінкі, засунутыя пад стрэхі, будуць ахоўваць гаспадаркі, двары, быдла ад усякай бяды. Гэтаксама, як і сьвянцоная вада. Вясною гаспадыні папырскаюць ёю жывёлу перад першым выпасам. І свае гароды — на ўраджай.











інтымны дзёньнік Багдановіча

# Для друку/не для друку

**Ці можна чытаць чужы дзёньнік? Асабліва калі гэты дзёньнік інтымны і не разьлічаны на публікацыю. Адказ на гэтае пытаньне вядомы кожнаму зь дзяцінства. Чытаць чужыя занатоўкі амаральна. Гэтая ісьціна перастае гучаць пераканаўча, калі гаворка заходзіць пра інтымныя дзёньнікі вялікіх творцаў.**

**Ужо больш за дзесяць гадоў у Беларусі вядзецца палеміка пра тое, ці можна апублікаваць эратычныя занатоўкі Максіма Багдановіча, ці маральна гэта і ці не сапсуе цнатлівы вобраз улюбёнага творцы. Гэты дзёньнік першага раману, сэксуальнага сталеньня зьберагаецца ў музэі Багдановіча ў Менску і старанна ахоўваецца супрацоўнікамі ад чужога вока. Палеміка за сьценамі музэю працягваецца.**

**Што ж такога ўчыніў Багдановіч са сваёю каханкай, што быццам бы ажно непрыемна той дзёньнік у руках трымаць і што ўжо больш за 10 гадоў не дае спакою ягоным прыхільнікам? Чым кепскі скандал вакол імя паэта, які нібыта выклікала публікацыя гэтых дзёньнікаў? І няўжо пацерпіць велічыня творцы, здольнага праз сто гадоў даць нагоду для скандалу вакол свайго імя?**

**Што больш этычна — чытаць чужыя дзёньнікі ці культываваць непраўдзівы вобраз чалавека і творцы? Уявіце, што б сказалі творцы мінулых эпохаў, сутыкнуўшыся са сваімі падхарошанымі вобразамі. Найчасцей яны пратэставалі б. У справе Багдановіча ягоны дзёньнік выглядае адчайнай спробаю вырatаваць свой уласны пасьмяротны вобраз.**

**Дзёньнікі выдатных пісьменьнікаў усё ж урэшце друкуюцца заўсёды. Чалавецтва, імкнучыся зразумець прыроду таленту, дазваляе сабе не лічыцца з воляю творцы. Яно ня зьмірыцца з табу на дзёньнікі. Кажуць, калі б была выканаая перадсьмяротная воля Кафкі, сьвет папросту не пачуў бы пра такога пісьменьніка.**

**Дзёньнік пісаўся Багдановічам для іншых як сьведчаньне таго, што ён пражыў кароткае, але паўнавартаснае ў сэнсе пазнаньня жыцьцё. У гэтым мусіў пераканацца бацька, а разам зь ім і ўсе, хто неабыякавы да асобы творцы. Магчыма, публікацыя дзёньніка і зьменіць для кагосьці вобраз Багдановіча. Але ці ў горшы бок?**




## Што думаў, тое й пісаў

Я, як беларус, маю права на спадчыну клясыкаў сваёй літаратуры і ўсё павінен зрабіць, каб акадэмічныя выданьні такіх творцаў, як Колас, Купала, Гарэцкі, Багдановіч і Гарун, у нас былі. А калі нехта зь нейкай нагоды не дае нам гэтага зрабіць, забараняе, хавае — значыць мы яшчэ ня спраўджаныя, як нацыя. Мы мусім усе змагацца за тое, каб спадчына нашай клясыкі была надрукаваная, ацэненая, асэнсаваная й мела шырокі розгалас. Спадчына належыць не спэцыялістам, якія вырашаюць лёс твору Багдановіча вельмі простым чынам — як цэнзура ў савецкія часы.

Калісьці выпадкова мне трапіў у рукі гэты дзёньнік. Я з нагоды 110-годзьдзя Багдановіча напісаў нататку ў газэту "Звязда". Пасьля гэтага пайшоў у музэй Багдановіча, і мне паабяцалі, што аддадуць. А я паабяцаў, што арганізую публікацыю дзёньніка. Зьвярнуся да навукоўцаў — да Конана, Рагойшы, Грыцкевіча, Бяляцкага.

Гэты дзёньнік патрабуе камэнтароў, навуковай публікацыі. На сёньня ў музэі няма навукоўцаў адпаведнага ўзроўню, але ў музэя ёсьць амбіцыі мець першую публікацыю. Тут не супадаюць магчымасьці й рэальнасьць.

Раней ці пазьней дзёньнік будзе надрукаваны. Навукоўцы, людзі творчыя напішуць, асэнсуюць і зробяць публікацыю... Астраўцоў ці Акулін катэгарычна супраць друкаваньня дзёньніка. Але яны не спэцыялісты. Міхась Стральцоў, калі пісаў сваю "Загадку Багдановіча", прыходзіў раіцца да Навуменкі — згадваць пра дзёньнік ці не? Тады Іван Навуменка сказаў, што нясвоечасова, цэнзура не пусьціла б. Гэта было рашэньне спэцыялістаў, якія адклалі адкрыцьцё на пэрспэктыву. Сёньня я ня бачу такіх спэцыялістаў у музэі. Калі я пытаўся ў супрацоўніц музэю, чаму не пускаюць дзёньніка ў друк, яны казалі: "Там ёсьць такія словы: "...У мяне ўстаў, і я пайшоў з прыўзьнятым..." Яны гэта лічаць амаральным, а я лічу, што гэта нармальна. Скажам, у цыкле вершаў Багдановіча "Сьмерць і Эрас" нашмат больш эратычнага й адкрытага.

А наконт таго, што сам аўтар не зьбіраўся публікаваць свой дзёньнік... Я ня думаю, што Гамэр зьбіраўся выдаваць у СССР "Іліяду". Тое, што меркаваў аўтар, не заўсёды адпавядае рэальнасьці. Адзнакі, якія даюць нашчадкі, часам больш вартыя, чым аўтар дае сам сабе. Тым больш калі казаць за Багдановіча... Мяне зьдзіўляе, што нехта бярэцца казаць, *што* думаў Багдановіч, калі пісаў. Ён што думаў, тое й пісаў.

**Адам Глёбус**

## Дзёньнікі мастакоў

Дзёньнікі мастакоў складаюць велізарную клясычную бібліятэку. Занатоўкі Альбэрты, Вазары, Дэлякруа ды іншых творцаў бясконца цытуюцца ў мастацкіх школах. Падчас вывучэньня гісторыі мастацтва бяз гэтых занатовак не абысьціся.

Для мастака, у адрозьненьне ад літаратара, дзёньнік ня ёсьць часткаю пісьменьніцкіх практыкаваньняў. Мастакі найперш фіксуюць свае ўласныя творчыя адкрыцьці. Напрыклад, Эжэн Дэлякруа, што напісаў "Свабоду на барыкадах", цэлымі абзацамі апісвае ў сваіх дзёньніках, як паказаць халодную "жалезнасьць" кірасы альбо як прымусіць "скварыцца" сонечнае сьвятло. А Фэрдынанд Рушчыц у сваіх дзёньніках падрабязна распавёў, як у яго ўзьнікла ідэя славутай "Зямлі". Ён, прыехаўшы з падарожжа па Эўропе да бацькоў, у Багданаў, выбіраў разам зь імі бульбу і, прысеўшы нізка ў баразьне, убачыў адно неба й зямлю. Пасьля да гэтага дадаліся валы з аратым — і выйшаў клясычны твор жывапісу.

Сярод гэткіх апісаньняў практычных ураджаньняў трапляюцца й выдатныя філязофскія сэнтэнцыі. Анры Матыс неяк запісаў у сваім дзёньніку: "Для сапраўднага мастака няма нічога больш складанага, як намаляваць ружу, бо для гэтага ён мусіць забыцца, як яе выяўлялі іншыя мастакі".

XX ст. прынесла новыя патрабаваньні да мастацтва й мастакоўскіх дзёньнікаў. Тэарэтызаваць, апісваць свае творчыя прынцыпы стала для тысячаў мастакоў неабходнасьцю. А некаторыя пачалі гэтым зарабляць. Згадаць адно толькі Сальвадора Далі, які выпусьціў у сьвет кніжку са "сьціплай" назваю "Дзёньнікі генія". Альбо Ўоргала, які выдаў "Філязофію Эндзі Ўоргала (ад А да Б і нададварот)". Праўда, ягоны поўны дзёньнік быў выдадзены пасьля сьмерці й выклікаў велізарны скандал.

Аднак нават гэткія разьняволеныя пэрсоны, як Далі ці Ўоргал, у прыватных дзёньніках неахвотна апісваюць свае інтымнае жыцьцё. Мастакі зазвычай пазьбягаюць распавядаць пра сэкс. Вось, напрыклад, як апісаў самую значную падзею ў сваім жыцьці Сальвадор Далі, які "адбіў" жанчыну ў паэта Поля Элюара: "Першы пацалунак, калі сутыкнуліся нашыя зубы й перапляліся языкі, быў пачаткам таго голаду, што прымусіў нас кусаць і грызьці адно аднаго да самае сутнасьці нашага быцьця".

Я далёкі ад думкі, што мастакі больш маральныя ў сваіх учынках за іншых творцаў. Відаць, прызвычаіўшыся адбіраць сабе фарбы й прыёмы, яны гэтак жа пераборліва ставяцца й да слоў.

**Сяргей Харэўскі**

## З-пад бацькавай апекі

Максім Багдановіч напісаў гэтыя дзёньнікі ў 1915-м, калі адпачываў у Крыме. Усяго ён быў там тры разы. Першы раз у 10-м годзе, другі раз у 15-м і апошні — у 17-м. Гэта быў, відаць, самы шчасьлівы год у ягоным жыцьці — 15-ы. Калі ён адпачываў у Старым Крыме, ён быў самастойны, можна сказаць, упершыню. Бо, па-сутнасьці, ён усё сваё жыцьцё залежаў ад бацькі Адама Ягоравіча. І матэрыяльна, і духоўна. Багдановіч у сваім жыцьці не зарабіў грошай. Пасьпеў толькі скончыць ліцэй. Усе ягоныя заробкі — хіба крыхта ганарараў.

Адам Ягоравіч сачыў за здароўем Максіма. Фактычна, тыя паўгоду, якія Максім самастойна пражыў у Менску, давялі яго да сьмерці. Бо бацька прымушаў яго прымаць лекі, даглядаў яго, як дзіця. А ў 15-м Максім вырваўся на волю. Ён трапіў у пансіянат, дзе жыла жанчына — замужняя, але бяз мужа. Звалі яе Клава. У Багдановіча ўзьнікла зь ёй сувязь. Магчыма, адзіная ў жыцьці. І кожны дзень гэтай сувязі ён фіксаваў у дзёньніку. Гэта была такая паперка, шмат разоў скручаная, напісаная простым алоўкам. Яна расчытаная напалову, з дапамогаю крыміналістычнай экспэртызы. Бо расчытаць гэта простым вокам немагчыма.

У дзёньніку па-расейску фіксуюцца літаральна мэдычнымі тэрмінамі дзеяньні мужчыны й жанчыны. І адначасова з гэтым Максім Багдановіч піша іншы твор — для аднаго з турыстычных расейскіх выданьняў таго часу — "*Из летних впечатлений*". Можна браць дзёньнік і параўноўваць. "*Из летних впечатлений*" напісана вельмі прыгожай мовай. Там апісаныя нейкія рэфлексіі, пачуцьці. Максім апісвае, як яны зьбіралі сэрдалікі па калена ў вадзе, як іх здымаў фатограф. Як яны наведвалі закінуты армянскі манастыр, як яны хадзілі ў музэй. Там так усё прыгожа, так рамантычна. А ў дзёньніку ўсё так аголена... І, натуральна, тых, хто ведаў Багдановіча як паэта чыстае красы, дзёньнік проста шакаваў, узьнікала рэакцыя непрыманьня: "*Я павалію ее на землю*", "*Я падняў ёй спадніцу*", "*Я рассоўваю ёй палавые губы*" і г.д. Мы стаялі мурам непарушным супраць таго, каб дзёньнік друкавалі. Гэта быў 91-ы год, на той момант мы зрабілі слушна. Пасьля ў нас узьнікла іншая ідэя. Мы пачалі выпускаць архіўныя матэрыялы. Першы "Сшытак" быў прысьвечаны сям'і Багдановіча, непасрэдна бацьку, маці. Другі — стрыечным сёстрам, братам. Трэці мы плянавалі прысьвяціць жанчынам у жыцьці Багдановіча, плянавалі ўключыць туды гэты дзёньнік з нармальнымі камэнтарамі, але так атрымалася, што гэты зборнік не выйшаў.

Па вялікім рахунку, не настолькі ён цікавы. Большасьць з нас ужо перажыла гэты век Максіма Багдановіча, які пражыў 25 гадоў, 5 месяцаў і 18 дзён. Але з другога боку, як я лічу, калі чалавек давярае гэта паперы — гэта ўжо не таямніца. Як і тое, што вымаўлена. Ён думаў даказаць некаму, можа бацьку, што ён мужчына, ня хлопчык.

У тым самым 91-м "нявесты Багдановіча", як мы іх называлі, апанавалі музэй і казалі: "Ня дай Бог, ня дай Бог... Ён цнатлівы юнак". А Багдановіч не хацеў заставацца гэтым самым цнатлівым юнаком!.. Пасьля тае сувязі застаўся адзін верш, які гучыць вельмі пошла й банальна:

> Забудется многое, Клава. Но буду
> я помнить всегда,
> Как в сердце шипела отрава
> любви, и тоски, и стыда.
> Тебя в темно-синем платочке и
> песню, что пела мне ты:
> *Прошли золотые денечки.*
> *Остались только мечты*

Гэта дзёньнік чалавека, які дарваўся да жыцьця і хоча даказаць, што ён сапраўды жыў. А наперадзе яго чакала вяртаньне ў Яраслаўль, у свой пакой, празь які быў уваход у прыбіральню, пазашлюбныя бацькавы дзеці, мачаха і гэтак далей...

**Паліна Качаткова, колішняя супрацоўніца музэю Багдановіча**

## Толькі ў акадэмічным выданьні

Калі паўстала пытаньне, ці друкаваць дзёньнік, мы, супрацоўнікі музэю, сабраліся і сказалі, што не дамо, што мы ўсе супраць. Ён мусіць быць надрукаваны ў акадэмічным выданьні, дзе сабрана ўсё, напісанае рукой аўтара.

Максім Багдановіч — гэта мой любімы беларускі паэт, і мне было непрыемна чытаць гэты дзёньнік. Проста было непрыемна яго ў руках трымаць, непрыемны быў вэрхал вакол гэтага ўсяго. Максім яго пісаў не для таго, каб ён быў надрукаваны.

**Алесь Астраўцоў, былы супрацоўнік музэю Багдановіча**


Адылён Рэдон "Усьмешка павука"

бібліятэка

# Плаці, і зь цябе пасьмяюцца

**У Горадні напярэдадні Новага году выйшаў літаратурна-мастацкі альманах "Нябёсны знак", у якім зьмешчаныя творы ажно 18-ці мясцовых паэтаў. Ягоныя аўтары 24 студзеня ладзяць ў Гарадзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Карскага прэзэнтацыю сваёй супольнай кніжкі.**

Мне, як літаратару, які мае нейкі досьвед прафэсійнай працы, давялося зьдзейсьніць гвалт над сабой, каб адужаць гэтую невялічкую кніжку. Бо да добрай паэзіі прызвычайваешся, як да смачнай ежы. А калі зьясі нешта няякаснае, барані бог каб не залежалае ды стухлае, дык спазнаеш неверагодныя цялесныя пакуты.

Першае, што кідаецца ў вочы, — гэта колькасныя суадносіны беларускамоўных і расейскамоўных тэкстаў. З усіх удзельнікаў альманаху толькі шэсьць надрукавалі свае вершы па-беларуску, ня лічачы Анатоля Апанасевіча, які сьпярша заяўляе:

Разумею, што трэба мне, трэба
Напісаць верш на мове сваей.
Бо прад тым, як пачуць водар хлеба,
Перш я словы пачую мовы той.

А пасьля забываецца на сваю дэкларацыю і астатнія вершы друкуе выключна па-расейску. I выглядае як тая унтэрафіцэрская ўдава, што сама сябе высьцебала. Калі разумееш, што "трэба", дык навошта здраджваць сумленьню?

Другое, на што зьвяртаеш увагу, — паважны век бальшыні аўтараў. Аўтары "Нябёснага знаку" крыху схітравалі — адмыслова не падавалі датаў нараджэньня, але сваіх гадкоў ад чытачоў ім не схаваць. Вось, напрыклад, рэдактарка альманаху Марыя Шаўчонак надрукавала свой здымак з далёкіх студэнцкіх часоў. Чаго саромецца? Сьпявае ж пэнсіянэр Вахтанг Кікабідзэ "Мае гады — маё багацьце" і не саромеецца. Сапраўды маладых аўтараў у "Нябёсным знаку" толькі два — студэнт-пяцікурсьнік фізыка-тэхнічнага факультэту Гарадзенскага ўнівэрсытэту Андрэй Гайса і дзесяцікласьніца Вольга Апон.

Між тым, скідаць у адну кучу вершы аўтараў з розным жыцьцёвым досьведам і ўзроўнем паэтычнага майстэрства нельга. Бо нармальны адукаваны чытач ня здолее адэкватна ўспрыняць і асэнсаваць стылістычны гармідар ажно 18-ці чалавек. Нездарма ў літаратурным асяродзьдзі калектыўныя зборнікі з удзелам больш як 8—10 чалавек называюць коратка і ёміста — "брацкая магіла"...

Няма патрэбы пералічаць друкарскія ляпсусы ды аналізаваць творы ўсіх аўтараў выданьня. Там ёсьць вершы добрыя і дрэнныя, цікавыя і бездапаможныя, ёсьць проста ніякія. А сабраныя разам у альманаху, яны нагадваюць кепскай якасьці здымкі зь сямейнага альбому застойных часоў. Больш таго, каб засьведчыць сваю прысутнасьць у "сямейным альбоме", аўтары мусілі ўнесьці пэўную колькасьць "умоўных адзінак"! Карацей, плаці даляры — і зь цябе пасьмяюцца...

**Юры Гумянюк**

# Мастацтва як злачынства

**У змрочных сутарэньнях Люўру, у самым сэрцы гэтага амаль тысячагадовага замку, адкрылася выстава "Мастацтва як злачынства". Яна дае гледачам магчымасьць зазірнуць мастаку ў душу, пабачыць творы, пісаныя ім у хвіліны дэпрэсіі й расчараваньня, каб пазбыцца страху і ўнутранага хаосу. Каб потым вярнуцца да сваёй галоўнай працы.**

На выставе мы сутыкаемся з падпольлем, з асабістым пеклам мастакоў. Сярод іншых там можна пабачыць гравюры паэта Ўільяма Блэйка, якія ён рабіў для сябе — не арыентуючыся на "спажыўца". Блэйк прыдумаў новы сьвет, новую рэлігію й міталёгію, якімі натхняўся Мілаш, пішучы пра Зямлю Ульра, няплодную ды нялюдзкую. У гравюрах Блэйка відаць размах, гігантызм: аголены барадаты Госпад Бог, нібы Ньютан, ствярае Зямлю, вызначаючы велізарным компасам ейнае месца ў космасе. Апакаліптычныя сцэны поўныя гіганцкіх постацяў з паэзіі Блэйка. Звар'яцелы Навуходаносар паўзе ў якойсьці бездані й паварочвае да гледача жахлівы твар. Гэтае пекла яшчэ лагоднае, інтэлектуальнае й эстэтычнае, узьнёслае ды мэлянхалійнае — яму далёка да іншых мастакоўскіх пеклаў (у літаратуры Сада, карцінах Гоі), якія спарадзіла мяжа XVIII і XIX ст.

Сам Гоя! На жаль, ягоных гравюраў тут мала, і яны ня самыя характэрныя. Перад намі адкрываецца ўнутраны сьвет кашмараў мастака, выкліканых пражытай вайной. Дый ня толькі ёй — на закасьцянелую, дзьвюхдушную й непрыхавана жорсткую гішпанскую рэчаіснасьць мастак таксама адклікаецца жудаснай галерэяй інквізытараў, судзьдзяў, зводніцаў, аслоў у сутанах.

Пры канцы Асьветніцтва разам з Францускай рэвалюцыяй зьявіўся новы тып маляваньня. Калі раней мастакі ў сваіх шэдэўрах імкнуліся адлюстраваць прыгажосьць сьвету, зямлі й жыцьця, дык у той час зьяўляецца мастацтва, што фіксуе трагічнасьць сьвету. Найбольш яскравы прыклад гэткага мастацтва — цыкль Гоі "Жахі вайны". Гэты ўяўлены кашмар можна параўнаць хіба з карцінамі Гераніма Босха, дзе кашмар сну зьмешваецца зь нейкай ерэтычнай тэалёгіяй. Босх — вось сапраўдны ідэоляг плыні, сьціплая частка якой паказаная на выставе.

Найбольш на выставе твораў ня самага вядомага ў нас мастакасымбаліста канца XIX — пачатку XX ст. Адылёна Рэдона. Апроч фантастычных, нечаканых па каляровасьці карцінаў алеем, Рэдон маляваў для сябе жахлівыя рэчы. Велізарнае самотнае вока, нібы вока самога змрочнага лёсу, з позіглядам, застылым... у пакутах? Ці ў абыякавасьці? Процьма жудасных павукоў, якія маюць на ножках невялікія чалавечыя твары зь неразгаданым выразам; адсечаная галава на п'едэстале... Чым кіраваўся Рэдон, малюючы гэта, — боязьзю, брыдкасьцю, маніяй мажлівага ператварэньня чалавека ў тое, найніжэйшае ды найбрыдчэйшае? Цяжка вызначыць. Раскошу барваў і мэтафараў Рэдон пакінуў для карцінаў, якія знаходзяць у Францыі безьліч прыхільнікаў сярод мастакоў і паэтаў.

Падчас прагляду экспазыцыі "Мастацтва як злачынства" найперш зважаеш на лягічную слабасьць слоўка "як", што ня дужа сюды пасуе. Лепш было б назваць выставу "Мастацтва і кашмар" — кашмар гісторыі, кашмар душы. Мастацтва не спрабуе быць актыўна злачынным — яно натуе навакольныя жахі. Зазначым, што ў ранейшыя стагодзьдзі таксама былі хранікёры жудасьцяў, напрыклад графік Жак Калё. Але ягоная творчасьць — запіс фактаў, а не адкрыцьцё закуткоў мастакоўскае душы. XIX ст. шмат зьмяніла — і зьмяніла радыкальна. Першы раз — з дапамогай рамантыкаў, якія ігнаравалі грамадзкія табу й умоўнасьці, другі — за пасярэдніцтвам доктара Фройда, што прыслухаўся да чалавечае душы й адкрыў у ёй такія жахі, побач зь якімі блякне нават жудасьць вайны.

**Паводле *Gazety Wyborczej***



## Тры ружы й паўбутэлькі каньяку

**Містычная цырымонія ў дзень нараджэньня Эдгара Алана По на ягонай магіле сёлета прайшла як звычайна.** Пачынаючы з 1949 г., 19 студзеня ўначы на магілу Эдгара По, які пахаваны на цвінтары адной з цэркваў Балтымару, прыходзіць чалавек у цёмным плашчы, чорным капелюшы і белым шаліку, які закрывае твар. З сабой ён прыносіць і пакідае на магіле тры чырвоныя ружы ды паўбутэлькі каньяку. Ведаючы пра гэтую традыцыю, ноччу ля царквы зьбіраюцца разявакі.

Гэтым разам невядомы прыйшоў а трэцяй гадзіне. Як паведаміў захавальнік царквы і музэю Эдгара По Джэф Джэрам, які назірае за гэтай цырымоніяй ужо больш за 20 год, незнаёмец, як звычайна, таемным жэстам засьведчыў, што ён не самазванец. Хоць, паводле слоў Джэрама, чалавек, які прыйшоў сёлета, выглядаў маладзейшым за свайго папярэдніка.

За ўвесь час існаваньня гэтай традыцыі яна парушалася толькі аднойчы. Летась чалавек, які прыйшоў, пакінуў на магіле апрача ружаў і каньяку запіску, якая разьюшыла прыхільнікаў мясцовай футбольнай каманды "Балтыморскія крумкачы", названай менавіта ў гонар адной з самых вядомых паэмаў По "Крумкач". У запісцы меўся радок з паэмы По "Чырвоная маска сьмерці", тлумачэньне якога дазваляла дапусьціць, што той, хто пакінуў запіску, прадказвае камандзе, якая ўпершыню выйшла ў фінал нацыянальнага супэркубку па амэрыканскім футболе, паражэньне. Дарэчы, менавіта тады "Балтыморскія крумкачы" ўпэўнена перамаглі.

пайшлі ад нас

## Памёр Зьбігнеў Дзевянткоўскі

**На мінулым тыдні памёр папулярны ў Польшчы сьпявак і кампазытар Зьбігнеў Дзевянткоўскі (заснавальнік *"Tercetu Egzotycznego"*).** Дзевянткоўскі быў родам з Горадні і за семдзесят гадоў жыцьця напісаў каля 3 тысячаў песень.

## Пісьменьнік з Галісіі

**Гішпанскі пісьменьнік Каміла Хасэ Сэля, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі 1989 году, памёр у Мадрыдзе ў мінулы чацьвер а восьмай раніцы ад сардэчнага прыступу.** Яму было 85 год. З аўторка ён знаходзіўся ў бальніцы з прычыны грыпу і цяжкасьцяў з дыханьнем.

Творчы даробак Каміла Хасэ Сэля налічвае 70 кніг. Паходзіў пісьменьнік з Галісіі (на паўночным захадзе Гішпаніі), якая была для яго тым, чым Макондa — для Маркеса.

Сэля вучыўся ў Мадрыдзкім унівэрсытэце, падчас грамадзянскай вайны служыў у арміі Франка. У 1955 годзе ён пасяліўся на Маёрцы, дзе заснаваў літаратурны часопіс *Papeles de Son Armadans*. З 1957 г. ён быў членам гішпанскай Каралеўскай акадэміі, а ў 1995 г. атрымаў самую каштоўную ў гішпанскамоўнай літаратуры ўзнагароду Сэрвантэса.


Каміла Хасэ Сэля

Дэбютаваў Сэля авантурным раманам "Сям'я Паскуаля Дуартэ" (1942), які выклікаў шок сакавітасьцю мовы і цынізмам у апісаньні падзей і герояў. Чарговым буйным творам быў "Вулей" (1951), дзе праз лёсы дзясяткаў герояў Сэля адлюстраваў вобраз беднай, зьнішчанай вайной Гішпаніі. Пра тое самае — раман "Святы Каміль 1936" (1969), напісаны ў форме "плыні сьвядомасьці". У 1983 г. Сэля выдаў "Мазурку для двух нябожчыкаў", прызнаную крытыкамі найлепшым гішпанскім раманам з часоў "Дон Кіхота". І тут жыцьцём людзкога вулею кіруюць сьляпыя пачуцьці, суровыя традыцыі і вайна. Грубы гумар у рамане спалучаны са сьмелым эратызмам, у якім Сэля быў спэцыялістам: некалькі год ён займаўся навуковай апрацоўкай шматтомнага "Інтымнага слоўніка" (1968—72).

Сэля друкаваў таксама нарысы пра свае пешыя вандроўкі па Гішпаніі (напрыклад, "Падарожжа ў Алькарыю" 1948 г.). Пазьней ён езьдзіў па краіне на ўласным "ролс-ройсе". Сэля быў вялікім аматарам смачнай ежы, жанчынаў і падарожжаў. З нагоды атрыманьня Нобэлеўскай прэміі ён сказаў: "Жыцьцё — нібы гульня ў тэніс, і гэтым разам я выйграў". "Хэмінгуэй быў маім прыяцелем. Мы часта хадзілі з ім глядзець бой быкоў", — прызнаўся ён падчас цырымоніі ў Стакгольме.




**Выйшаў пробны нумар новага часопісу "Partisan". У гэтым выданьні галоўнае — візуальны шэраг, а ня тэкст. Задума зрабіць гэткі часопіс снавалася яго выдаўцамі гады чатыры. "Partisan" уразіць кожнага сваім "нетутэйшым" паліграфічным выкананьнем. Багацьце ілюстрацый, пераважна твораў беларускага мастацтва 90-х, — заслуга рэдактара часопісу Артура Клінава. Сваім зьместам і формай "Partisan" дакладна перадае касмапалітычную атмасфэру, якая пануе ў асяродзьдзі менскай мастацкай багемы.**




*Беларуская палічка ў Інтэрнэце:*
Абнаўленьні за апошнія тыдні

*Новыя тэксты:*

**Лявон Юрэвіч**. Вырваныя бачыны. Да гісторыі СБМ. **Міхась Кавыль**. Першая рана. Вершы. **Валянцін Акудовіч**. Эгаізм. Вайна культураў. **Рэй Брэдбэры**. Яго пумпэрнікель. **П'ер Буль**. Загадкавы сьвяты. **Андрэ Маруа**. Жыцьцё людзей. **Наталі Сарот.** Трапізмы. **Вэркор**. Маўчаньне мора. **П'ер Гамара**. Любоў ганчара. **П'ер Куртад**. Канец Італіі. **Эльза Трыяле.** Івэта **Ражэ Грэнье.** "Дарагая, мілая мадам..." **Элен Пармэлен**. Уяўны мастак **Анры Труаё**. Пра каханьне й вераломства. **Барыс Віян**. Ваўкалак. **Марыс Таэска**. Падарунак. **Марсэль Эмэ**. Назад. **Анры дэ Рэнье**. Тайна графіні Барбары. **Эрвэ Базэн**. Здаецца мансарда. **Уільям Шэксьпір, Уолтэр Дэ Ля Мар, Рычард Олдынгтан, Эва Мэрыям, Сэмюэл Коўлрыдж, Эйдрыян Генры, Лэнгстан Г'юз, Альфрэд Тэнісан, Гартлі Коўлрыдж, Генры Лангфэла, Чарльз Мэкай, Томас Эрнэст Г'юм, Рупэрт Брук, Джон Кітс, Крыстына Разэты.** Вершы.

Матэрыялы паласы падрыхтаваў Мянчук

# “Сьвятая Ноч” на пляцы Волі




Сутарэньні менскага катэдральнага касьцёлу знаёмыя мне зь дзяцінства. Там быў стралковы цір спартовага таварыства “Спартак”. З касьцельных лёхаў быў падземны ход да будынку калегіюму, на фундамэнце якога ў савецкія часы пабудавалі музычную школу — цяпер гэта гімназія-каледж пры Беларускай акадэміі музыкі. Тым падземным ходам мы, вучні, хадзілі ў спартакаўскі цір здаваць нормы ГПА па стральбе.

Аднойчы — мне было тады гадоў трынаццаць — я раптам зразумела, што таўшчэзны мур, які высіўся пасярод школьнага двара, гэта апсыда барочнага касьцёлу. Я доўга не магла ўцяміць, якім чынам касьцельныя муры апынуліся за фасадам звычайнага сталінскага будынку таварыства “Спартак”. Зьлева да муроў прыляплялася школьная спартзала, на дах якой можна было трапіць проста з вокнаў клясы сальфэджые. Трыццаць крокаў па чорным разагрэтым толі — і дакранаешся да халодных камянёў, якія дыхаюць даўніной. У душы адразу пачынае гучаць арганная таката Баха.

Бальшавікі, зьнішчаючы сьвятыні, перш за ўсё пазбаўлялі іх голасу: здымалі званы, выкідалі арганы...

Аднак касьцельная музыка жыла. Я чула яе ў дзяцінстве, калі вандравала ўлетку па далёкіх хутарах Браслаўшчыны. Гэля Кур’ян штонядзелю езьдзіла на ровары ў Браслаў на імшу. Яна сьпявала ў касьцельным хоры. Найбольш яна любіла сьпяваць календы — напаўнародныя калядныя песьні, у якіх распавядаецца пра цуд нараджэньня Хрыста: “Нарадзіўся нам Збавіцель”, “А ўчора зь вячора”, “Як прыбеглі пастухі ў Бэтлеем”, “Зямля і неба”. Яна сьпявала іх амаль у тым самым стылі, што й паганскія калядкі — “Го-го-го, каза!” У ейным сьпеве не было нават ценю фальшывай слодычы. Аўтэнтыка XVII стагодзьдзя, не кранутая сантымэнтальным глянцам пазьнейшых эпохаў.

Календы заўжды сьпяваюцца на памяць. Гэта іхная галоўная уласьцівасьць. Не заўважыш, як пачнеш сьпяваць. І ня скончыш, пакуль календа сама цябе не адпусьціць. У фальклёрных экспэдыцыях здараюцца сапраўдныя эпідэміі сьпяваньня. Нехта, вандруючы па вёсках, падчэпіць каляндку і прынясе яе ў абоз. І пачынаецца бясконцы ўсеагульны сьпеў. Спачатку разам. Потым паасобку. “Як прыбеглі пастухі ў Бэтлеем...” Праз нейкі час песьня цябе адпускае. Але нехта побач працягвае сьпяваць, і ты міжволі падхопліваеш мэлёдыю, якой прасякнута паветра, возера, дрэвы, аблокі, дагараючы агонь... Бо гэта ня ты сьпяваеш калядку, а калядка сьпявае цябе.

Я згадала пра гэта 13 студзеня, калі ў катэдры адбылася прэзэнтацыя каляднага праекту музычнага таварыства “Ліра”. Гэтае таварыства складаецца з музыкаў, якія гуртуюцца вакол касьцёлу Сьв.Роха на Залатой Горцы. Узначальвае таварыства кампазытар і арганіст Віктар Кісьцень.

Новы дыск “лірнікаў” — гэта 15 касьцельных песень, аб’яднаных назваю “Сьвятая ноч”. 12 зь іх — традыцыйныя беларускія калядкі і пастаралькі, знаёмыя кожнаму чалавеку, маленства якога прайшло ў Заходняй Беларусі. “Зямля і неба”, “А ўчора зь вячора”, “Паказалась зь неба”, “Нарадзіўся нам Збавіцель”, “Як прыбеглі пастухі ў Бэтлеем”... Аматары могуць скарыстаць ня толькі мэлёдыі, але й тэксты, раздрукаваныя на вокладцы.

Усе песьні гучаць у выкананьні парафіяльнага хору “Залатая Горка”. Гэтаму хору часам не стае дасканаласьці, чысьціні гуку, дый аранжаваньні, зробленыя Сьвятланай Шэйпай і Вольгай Паўлоўскай, месцамі занадта “глазураваныя”, сантымэнтальна-акадэмічныя. Затое як цудоўна гучыць арган! Вользе Паўлоўскай удалося знайсьці новыя фарбы, якія стварылі чарадзейную атмасфэру Калядаў. Ня горш гучаць і труба (Ігар Кабулашвілі), і клярнэт (Уладзімер Глускер).

На жаль, падчас прэзэнтацыі ў жывым выкананьні з акампанэмэнтам маленькага электраргану песьні прагучалі горш, чым на дыску. Калісьці магутны голас аргану ў Марыінскай катэдры будзіў па начах царскага губэрнатара. Цяпер сапраўднага аргану няма.

...Кампакт-дыск “Сьвятая ноч” можна купіць у касьцёлах і незалежных аўдыёкрамах.

**Ю.А.**



**Выкананьне праекту перабудовы касьцёлу ў спартзалю даручылі архітэктару Мікалаю Драздову. Гэты чалавек верыў у будучае адраджэньне катэдры і сьвядома імкнуўся палегчыць ейную рэстаўрацыю для нашчадкаў. Ён распрацаваў удалы й вельмі эканомны праект, які дазваляў пад слаямі фарбаў і прыбудаваным фасадам захаваць усё, што можна было зьберагчы. Архітэктар Драздоў таксама пакінуў нам падрабязныя абмерныя малюнкі касьцёлу, фатаграфічную фіксацыю ўсёй пабудовы, асобных архітэктурных дэталяў і насьценнага жывапісу. Дзякуючы захадам хітраватага ды прадбачлівага архітэктара ейнае аблічча хутка аднавілася.**

**канцэрт Блінова ў Філярмоніі**

# Наш чалавек у Тэхасе

Калі сёлета ў навагоднюю ноч вы шпацыравалі па праспэкце Скарыны, бачылі, напэўна, двух юнакоў, якія бавілі народ сьвяточнымі жартамі. Адзін зь іх, Данік Шутко, — музыказнаўца, вучыцца ў Санкт-Пецярбургу. Другі — Юрась Бліноў, піяніст, вучыцца ў Тэхаскім хрысьціянскім унівэрсытэце.

З Бліновым увогуле атрымалася цікавая гісторыя. Жыў сабе хлопец у слаўным мястэчку Дарагічын. Тамтэйшыя пэдагогі заўважылі ягоныя музычныя здольнасьці дый параілі бацькам завезьці яго ў Менск. Гэткім чынам Юрась трапіў у ліцэй пры Беларускай акадэміі музыкі ў клясу Інэсы Барташэвіч — жонкі тагачаснага першага сакратара Менскага абкаму.

Праз нейкі час сп.Барташэвіч быў прызначаны паслом у Паўночную Карэю. Разам зь ім паехала й жонка, а ейныя самыя таленавітыя вучні Юры Бліноў і Андрэй Паначэўны перайшлі ў клясу Людмілы Шаламенцавай — пэдагога, які сьцьвярджаў як прынцыпы беларускай фартэпіяннай школы насычанасьць гуку, гнуткасьць і сьпеўнасьць, падкрэсьленую ўвагу да дэталяў, рамантычнасьць і адухоўленасьць... Шаламенцавай пашанцавала спаткаць Блінова і Панечэўнага, бо яны мелі досыць таленту і працавітасьці, каб рэалізаваць ейны музычны ідэал. Хлопцам пашанцавала спаткаць Настаўніка. А найбольш пашанцавала ўсім нам, бо зьявіліся два піяністы сусьветнага ўзроўню.

Блінову было ўсяго дванаццаць, калі ён дэбютаваў у Вялікай залі Пецярбурскае філярмоніі, выканаўшы з аркестрам Другі фартэпіянны канцэрт Шастаковіча. У сьнежні 1992 г. 17-гадовы Юры Бліноў стаў пераможцам Першага Міжнароднага конкурсу піяністаў імя Пракоф’ева ў Санкт-Пецярбургу. У 93-м ён гастраляваў у Японіі, пазьней з посьпехам выступаў у Лёндане, Нью-Ёрку і Маскве.

У часе Міжнароднага конкурсу імя У.Кепэла ў Вашынгтоне Блінова заўважыў Тамаш Унгар — амэрыканскі піяніст, з паходжаньня вугорац, адзін з самых аўтарытэтных фартэпіянных пэдагогаў. Ён прапанаваў Юрасю працягнуць адукацыю ў Форт-Уорце, штату Тэхас, дзе месьціцца Інстытут імя Вэна Клайбэрна — сапраўдная Мэкка для маладых піяністаў з усяго сьвету. Але Бліноў быў занадта засмучаны сваёй няўдачай на конкурсе й не паставіўся да гэтае прапановы сур’ёзна.

У 1999 г. на міжнародным конкурсе ў Пэкіне яны зноў сустрэліся з Унгерам. Амэрыканец яшчэ раз паўтарыў прапанову. Бліноў даслаў відэазапісы сваіх канцэртаў у Форт-Уорт. Там іх паглядзелі, паслухалі дый прысудзілі Юрасю стыпэндыю, якая пакрывае кошт вучобы ва ўнівэрсытэце на працягу чатырох гадоў: тры гады займае атрыманьне “*The Artist Diploma in Piano*”, яшчэ год — канцэртная практыка. За пражываньне плаціць унівэрсытэцкія спонсары. Асобы, якія жывуць у ЗША па студэнцкай візе, афіцыйна ня маюць права працаваць, пра іхнае матэрыяльнае забесьпячэньне клапоціцца ўнівэрсытэт. Разьлічваць на гэткую падтрымку могуць толькі замежныя студэнты, якія дэманструюць выдатныя здольнасьці.

Бліноў атрымлівае стыпэндыю, спонсарскую дапамогу, рэгулярна здабывае прэміі на міжнародных і амэрыканскіх конкурсах. У яго ёсьць усе магчымасьці для нармальнага жыцьця і творчае працы — нават уласны раяль “Стэйнвэй”, атрыманы за перамогу на нацыянальным студэнцкім конкурсе. Раяль стаіць у спальні ягонай кватэры, якую ён арандуе ва ўнівэрсытэцкім жыльлёвым комплексе. Мініяцюрная гасьціная, спальня, ванны пакой. Каштуе гэта ўсё 410 даляраў у месяц. Да ўнівэрсытэту — 20 хвілінаў пешкі, але заняткаў мала — толькі абавязковыя сустрэчы з Унгерам і камэрны ансамбль. Так што ва ўнівэрсытэт Юрась ходзіць, зьбольшага, правяраць электронную пошту. Бо кампутара дома няма, а хочацца атрымліваць сьвежыя весткі зь Беларусі.

Пра падзеі 11 верасьня Бліноў таксама даведаўся ад менчукоў. “Адчыняю сваю паштовую скрынку і чытаю мэйл ад брата: “Які жах! Мы тут страшэнна нэрвуемся і чакаем ад цябе зьвестак!” Спачатку я напросту нічога не зразумеў, але мне растлумачылі...” — кажа ён. З пачаткам антытэрарыстычнай апэрацыі разышліся чуткі пра тое, што замежных студэнтаў павысылаюць з краіны. Аднак нічога такога ня здарылася, хіба што нагляд з боку спэцслужбаў стаўся болей жорсткім. Асабліва гэта датычыць прыбышоў зь “нядобранадзейных” краінаў, у лік якіх трапляе і Беларусь. У звычайных чалавечых стасунках гэта зусім не адчуваецца. Тэхасцы — людзі шырокай душы, без снабізму, якія часам назіраецца ў жыхароў Нью-Ёрку.

У ЗША існуе добры звычай: кожнаму студэнту-замежніку падбіраюць амэрыканскую сям’ю, каб апекавалася. Дзякуючы гэткаму звычаю замежны студэнт не пачуваецца самотным, нават у сьвяточныя вечары, якія большасьць амэрыканцаў бавяць у сямейным коле. У Блінова ажно дзьве такія сям’і. Да адной яго “прымацавалі па лініі” ўнівэрсытэту. У другой ён жыў падчас міжнароднага конкурсу імя Вэна Клайбэрна (усіх канкурсантаў расьсяляюць па сем’ях, каб яны былі ў роўных умовах). На конкурсе Бліноў не атрымаў аніякіх прэміяў, аднак яму пашчасьціла пазнаёміцца з цудоўнымі людзьмі, якія заўжды запрашаюць яго на Каляды, Дзень Падзякі й свае хатнія сьвяты.

Амаль ніхто з новых сяброў Блінова раней ня чуў пра Беларусь. “Амэрыканцы дрэнна ведаюць геаграфію, — кажа ён. — Ім кажаш: Беларусь месьціцца паміж Расеяй і Польшчай, а яны пытаюцца: а Польшча — гэта ў які бок ад Расеі? Ім здаецца, што сьвет сканчаецца недзе ў раёне Вялікіх Азёраў. Калі я аднойчы ў заклад па парадку назваў усе пяцьдзясят амэрыканскіх штатаў, гэта была сэнсацыя. Гаспадар хаты шчыра зьдзівіўся, чаму мне дагэтуль не далі Нобэлеўскай прэміі!”

Цяжка ўявіць Беларусь, калі жывеш у Тэхасе. Улетку там пекла да +40, а часам і вышэй. Затое ўвосень і ўзімку шмат сонца, загарацаь можна нават у пачатку сьнежня. Здараюцца, праўда, рэзкія перапады тэмпэратуры: ад +23 да -5 за два дні. Сьнег там рэдкасьць, значна часьцей зь неба падае лёд. Пры мінусавай тэмпэратуры ідзе дождж і замярзае ў паветры. Гэта яшчэ горш, чым сьнег. Жыцьцё спыняецца; крамы, школы і офісы зачыняюцца. “Толькі самагубца можа ў такое надвор’е выйсьці на двор”, — кажа Бліноў.

Ня дзіва, што беларускія вершы на тэхаскай зямлі неяк ня пішуцца (Бліноў — аўтар нізкі вельмі музыкальных паэзій). Дый кампанаваць няма ахвоты (Бліноў мае й кампазытарскі талент. Нядаўна ягоная фартэпіянная п’еса “Экспромт і фуга” была ў ліку трох абавязковых твораў на Міжнародным конкурсе піяністаў “Менск’2000”).

Па натхненьне трэба ехаць у Беларусь. І Бліноў прыяжджае дахаты два разы на год — улетку і ўзімку. Абавязкова грае сольны канцэрт у Філярмоніі. 18 студзеня канцэрт Блінова прайшоў вельмі ўдала. Найлепшым нумарам праграмы былі восем мазурак Шапэна. Неверагодная праніклёнасьць! Быццам на чужыне сэрца піяніста раскрылася шырэй! Настальгія можа зьнішчыць чалавека або рабіць зь ім цуды, калі ён дастаткова моцны.

Канцэрты ў родным горадзе для Блінова і экзамэн, і адначасова акт дабрачыннасьці. Перад летнім выступам Блінова баяліся, што публікі будзе мала, і ягоная маці ўзялася распаўсюдзіць 100 квіткоў. За гэта яна мусіла атрымаць ад Філярмоніі 10% камісійных. Пасьля канцэрту яны завіталі ў бухгальтэрыю разам, каб атрымаць належныя ім грошы. Дык выявілася, што маці за квіткі атрымала болей, чым сын за сольны канцэрт. Нізкія заробкі і высокая канкурэнцыя ў Беларусі вымушаюць музыкаў эміграваць.

Аднак і ў Злучаных Штатах рынак акадэмічнае музыкі не бязьмежны. У буйных амэрыканскіх гарадах ёсьць радыёстанцыі, якія дзень і ноч трансьлююць клясычную музыку зь вельмі зьмястоўнымі камэнтарамі. У Нью-Ёрку ажно тры гэткія станцыі!

Шмат выконваюць і “жывой” музыкі. У Форт-Уорцэ — горадзе з насельніцтвам 450 тыс. — ёсьць канцэртная заля на 2000 месцаў, пабудаваная на грамадзкія грошы для сымфанічных і опэрных імпрэзаў. У горадзе функцыянуюць некалькі сымфанічных аркестраў і опэрная трупа.

Акадэмічнай музыкай захапляюцца “*upper middle class*” (верхняя частка сярэдняй клясы) і багатыры. Простыя людзі ўсё яшчэ аддаюць перавагу джазу. Даведаўшыся, што Бліноў піяніст, гэткія людзі звычайна пытаюцца: “А з кім вы іграеце ў канцэртах?” Бліноў адказвае: “Я іграю сам”. А яны: “Ня можа быць! Мусіць жа быць, прынамсі, рытм і кантрабас!”

Бліноў ня ведае, ці застанецца ён у Злучаных Штатах: цяжка атрымаць пасьведчаньне на правa жыхарства. Па-другое, у Амэрыцы складана зрабіць музычную кар’еру. Вучыцца яму яшчэ больш за два гады. Магчыма, ён вернецца ў Беларусь. А можа, Беларусь застанецца толькі ў сэрцы.

**Юлія Андрэева**



**Юрась Бліноў**

*НАПЯРЭДАДНІ*

Так, пэўна, трэба толькі зрух,
Каб вершы пацяклі з крыніцы,
Каб раптам скláліся ў ланцуг
Падзей і лёсаў таямніцы.

Каб подых ветру сьпёку зьвёў,
Парваў дзірван, што сэрца поўніць,
І ўзьнёсься б сном да тых краёў,
Дзе граюць, грукаюць, гамоняць,

Дзе ладзяць шумны карагод,
Дзе зорку на нябёсы клічуць,
Дзе сустракаюць Новы год,
І п’юць да дна, і шчасьця зычаць.

Дый нам пара. Пяе крышталь,
Сьвятло сьвячы ў кароне дымкі.
Адчуем час — і дзіўны баль
Нас загарне ў свае абдымкі.

*1996*

**Уладзімер Арлоў**

# Па сьлядах князя Жыгімонта

Апынуўшыся ў Чэхіі, сярэднестатыстычны падарожнік зь Беларусі, які меў у школе станоўчую адзнаку па гісторыі, напэўна згадае, што нашу першую друкаваную кнігу Францішак Скарына выдаў якраз тут, у Празе. На тое, каб ведаць, што ў чэскай сталіцы выпусьціла сваю першую кнігу й пражыла найлепшыя гады Ларыса Геніюш, багажу школьных урокаў можа не хапіць. Як, дарэчы, і на тое, каб не забыцца, што на Альшанскіх могілках у Празе знайшлі свой апошні зямны прыстанак прэзыдэнты Рады БНР Пётра Крачэўскі ды Васіль Захарка.

Што да героя, якому прысьвечанае тваё сёньняшняе падарожжа ў чэскую глыбінку, дык ён наагул вядомы нават ня кожнаму з айчынных дактароў гістарычных навук.

Чаго ня скажаш пра іхных калегаў з Чэхіі. Дый ня дзіва, бо Чэская ўнівэрсальная энцыкляпэдыя паведамляе пра нашага суайчыньніка князя Жыгімонта Карыбута на некалькіх старонках, а спэцыялізаваная Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі адшкадавала яму ўсяго дзесяць невыразных радкоў.

Але гістарычныя даведнікі й манаграфіі засталіся адпачываць у Менску, а ты едзеш зь сябрам сярод засьнежаных пагоркаў у бок Кутнай Горы. Цябе цікавяць жывыя ўражаньні, зьвязаныя з імем беларускага князя, што на колькі гадоў заняў чэскі пасад.

Князь Жыгімонт Карыбут быў пляменьнікам гаспадара Вітаўта. Яшчэ ў зусім юным веку ён браў удзел у сьмяротна небясьпечнай экспэдыцыі з мэтаю ліквідацыі беларускага кузэна лох-нэскае пачвары, што здавён атабарыўся ў Лепельскім возеры і штогод ласаваўся ня менш як тузінам грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага.

У 1410 г. Жыгімонт мужна ваяваў на чале ўласнае харугвы пад Грунвальдам, а падчас гусіцкіх войнаў зьявіўся зь пяцітысячным беларускім войскам у Чэхіі.

Рэч у тым, што запрошаны гусітамі на каралеўскі пасад Вітаўт выявіў уласьцівую яму абачлівасьць і паслаў на выведку блізкага сваяка, якога чэхі, каб ня блытаць са сваім нялюбым каралём, таксама Жыгімонтам, ляпідарна называлі "князем К.".

Тым часам ты зь сябрам ужо кружляеш пакручастымі брукаванымі вулкамі старажытнага горадка Часлаў, дзе твой далёкі продак Жыгімонт Карыбут, ён жа князь К., склікаў увесну 1422 г. чэскі сойм.

У мясцовым рэстаранчыку, што насупраць абжытага галубамі помніка слыннаму правадыру гусітаў аднавокаму Яну Жыжку, адбываецца чаканая сустрэча з часлаўскімі гісторыкамі й краязнаўцамі. Як і ўсе аматары старасьвеччыны, гэта досыць адметныя асобы, што моцна нагадваюць сваіх калегаў са славутых "Лябірынтаў" Вацлава Ластоўскага. Пададзеныя на закуску разнастайныя сальцісоны й каўбаскі непазьбежна наводзяць на думку пра славянскае адзінства. Славянскую разнастайнасьць падкрэсьлівае тая акалічнасьць, што замест замшэлае пляшкі "Старкі", як у Ластоўскага, стол аздабляе колькі бутэлек густой чырвонай "Франкоўкі".

Банальнае для гэтых мясьцінаў, не раўнуючы як кампот для заводзкіх сталовак тваёй радзімы, віно "Франкоўка" разам з расповедамі чэскіх калегаў дапамагае больш выразна і яскрава ўявіць, як у чаканьні соймавых паслоў князь Жыгімонт бавіў свой час. У прыватнасьці, ты даведваешся пра яго ўлюбёны тост, што сустракаецца, дарэчы, у Мэтрыцы Вялікага Княства. Уздымаючы кубак з тагачаснай "Франкоўкай", князь К. піў за тое, "каб дзеўка кахала, каб куля мінала, каб шабля ня брала!"

Адной дзеўкі князю катастрафічна не хапала нават на адну ноч. Мясцовыя паданьні, падмацаваныя маладаступнымі пісьмовымі крыніцамі, сьведчаць, што Жыгімонт быў вялікім мілосьнікам жаночых вабнотаў. Апанаваны нечалавечай тугою па жанчынах сваёй пакінутай зь пільнай палітычнай патрэбы Бацькаўшчыны, знатны беларусін ад поўначы да сьвітаньня залагоджваў ня меней за пяць часлаўскіх прыгажунаў. Затым ён зазвычай выпіваў літровы кубак "Франкоўкі" і, сьвежы, як раніцняя маргарытка, браўся займацца дзяржаўнымі справамі.

Маладзенькая зеленавокая афіцыянтка таксама яўна ня супраць зрабіць экскурс у гісторыю і ўжо натапырыла свае дасканалыя ружовыя вушкі. Касавурачыся на яе, адзін з часлаўскіх краязнаўцаў прыцішана распавядае, што князь Жыгімонт належаў да аматараў не зусім традыцыйных спосабаў любові. Штовечар ён загадваў, апрача ўсяго іншага, прынесьці да сябе ў замкавую спачывальню збанок ліпавага мёду, якім перад любошчамі мазаў сваім абраньніцам грудзі ды іншыя і без таго салодкія месцы, не забываючыся пры гэтым і пра свае ўласныя.

Звычкі заежджага беларускага князя падабаліся аўтахтонам ня меней за тое, што ён прымаў любае сэрцу гусітаў прычасьце "под обойі", або, па-наску, двух відаў. Трэба меркаваць, што гэтая прыхільнасьць падмацоўвалася і наяўнасьцю пяці тысячаў узброеных да зубоў ваяроў, якія прыйшлі разам з князем К. зь берагоў Дзьвіны, Дняпра й Нёману.



Сойм у Чаславе, на якім гаворка вялася пра чэскі трон, завяршыўся палітычным трыюмфам Жыгімонта Карыбута. Князь запатрабаваў прыгажуняў, віна й ліпавага мёду, а ўраньні вырушыў з прыхільнікамі на места Праскае, дзе, як сьведчаць кронікі, быў зь вялікай пашанотаю сустрэты на Градчанах, а з часам пачаў называцца "каралём пажаданым і абраным".

Наперадзе ў князя К. было яшчэ дзесяць гадоў, прысьвечаных чэскім клопатам.

Пра адзін зь іх беларускі падарожнік усьцешана дазнаецца з турыстычнага даведніка ў славутым замку Карлштайн, заснаваным у гарах паблізу Прагі чэскім каралём і імпэратарам Сьвятой Рымскай Імпэрыі Карлам IV.

Карлштайн быў скарбніцай і месцам захаваньня дзяржаўных рэгаліяў. На пачатку гусіцкіх войнаў (расейскамоўны даведнік называе іх "*беспорядками*") цалкам лягічна паўстала праблема экспрапрыяцыі замкавых каштоўнасьцяў. Чэска-беларускае войска на чале з князем Жыгімонтам узяло Карлштайн у аблогу і, выгодна расставіўшы на горных схілах катапульты, закідвала яго велічэзнымі каменнымі ядрамі ды бочкамі з падпаленай смалой. Калі гэта не дало прыкметнага эфэкту, князь К. пастанавіў ужыць больш радыкальны сродак — замест смалы запоўніць бочкі фэкаліямі. "Гаўном", — сувора патлумачыў ён тым, хто не валодаў вытанчанай тэрміналёгіяй.

Піетэт перад колішняй улюбёнай рэзыдэнцыяй імпэратара Карла вытрыўся з адчайных гусіцкіх галоваў яшчэ не дарэшты, і сёй-той завагаўся. "Грошы ня пахнуць!" — адрэзаў адукаваны беларускі князь, што вывучаў у школе рэформы Вэспасіяна. Нагадаўшы паплечнікам актуальнае для любой эпохі антычнае выслоўе, Жыгімонт выцадзіў звычайную дозу "Франкоўкі", але гэтым разам дэманстратыўна скрывеліўся. "Квас!" — пагардліва зазначыў ён, каб канчаткова паказаць гусітам, хто гаспадар становішча.

Увечары таго самага дня замак трываў першую шквальную атаку фэкаліямі. Чэскі храніст Вацлаў Гаек зь Лібачанаў паведамляе, што бамбаваньне Карлштайну набыло вусьцішныя памеры. Не спадзеючыся на ўласныя магчымасьці, аблужнікі наладзілі падвоз "набояў" ня толькі з блізкіх ваколіцаў, а нават з праскіх прыбіральняў і сталічных сьцёкавых равоў.

Уяўленьне малюе велічную батальную панараму зь дзясяткамі нястомных працаўніц-катапультаў, сотнямі пірамідаў бочак з боекамплектам і несканчонай чарадою возчыкаў-"залатароў" на Праскім гасьцінцы. Ты ўжо настолькі глыбока перанёсься ў тыя рамантычныя часы, што твой нос пачынае моршчыцца ад уласьцівых ім водараў.

Менавіта гэтая акалічнасьць і вяртае цябе скрозь духмяную смугу стагодзьдзяў у часлаўскі рэстаранчык, дзе плаваюць зусім будзённыя пахі вэнджаных качак і запечанага сьвіного калена.

Падобны да беларускага шляхціча тутэйшы гісторык цытуе Чэскую энцыкляпэдыю: "Пажаданы й абраны кароль чэскі Жыгімонт Карыбут патрапіў захаваць рэдкую талеранцыю да чэскага ерэтызму, што ў тую пару сьведчыла пра вельмі цьвярозы розум".

Ты падымаешся й прапануеш ушанаваць памяць выбітнага продка ягоным улюбёным тостам. Сонечны прамень знаходзіць твой келіх, і "Франкоўка" ўспыхвае густым рубінавым колерам — сымбалем рыцарства, ваяўнічасьці й перамогі. Вы п'яце за тое, каб дзеўка кахала, і за ўсё астатняе. Зеленавокая афіцыянтка папраўляе карону сваёй каштанавай фрызуры. У лёгкай усьмешцы, што грае на ейных вуснах, ты чытаеш ухвалу й абяцаньне працягу.

Твой сябар пытаецца, ці маеш ты намер вяртацца сёньня ў Прагу. Ты марудзіш з адказам. Тваю скуру апякае салодка-вусьцішны струмок халадку. Ты бачыш у рэстаранным мэню ліпавы мёд і разумееш, што ў гэтую хвіліну на цябе заахвочвальна глядзіць сама муза гісторыі Кліё.

## "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Вільня.** Віленская гарадзкая дума пастанавіла пазычыць грошы, каб зрабіць розныя патрэбныя для гораду ўстройствы, як электрычныя трамваі, вадаправоды і др. Для вадаправодаў трэба пабудаваць помпы і паставіць недзе высока грамадны чан, каб пасьля вада ўсюды даходзіла. Гэты аграмадны чан адзін інжынэр параіў укапаць у Замкавую гару. Але людзі, каторым дорага мінуўшчына нашага гораду, абурыліся на гэты праект і, каб не дапусьціць да гэтага, як мы чулі, зьбіраюць подпісы пад такі пратэст:

"Прымаючы пад увагу, што Замкавая гара ў Вільні адзін з самых цікавых памятнікаў старасьвеччыны, што дзякуючы пекнаму свайму палажэньню прыцягвае шмат людзей і служыць месцам для адпачынку гараджан, устройства на ёй безь ніякай патрэбы будынку, ня маючага нічога супольнага зь яе гістарычнай мінуўшчынай, а тым больш зьвязаным з раскопкай можа быць спачываючых астанкаў герояў мінуўшых вякоў, было бы барбарствам у наш век недапушчальным.

Уважаючы гэта, мы, ніжэйпадпісаныя, выражаем сваё абурэньне і пратэст з прычыны пасяганьня на тутэйшы Акропаль".

Пад пратэстам падпісалася ўжо шмат людзей.

А.Ш.

13 (26) студзеня 1912 г., № 2

## Абразкі абрэзкі

У ранішнім аўтобусе цісканіна і гвалт: ля дзьвярэй не на жарт счапіліся дзьве жанчыны. Спрытнейшая зьбіла з апанэнткі шапку і ўчапілася ў валасы. Кажуць, што сутачны пік сэксуальнай актыўнасьці прыпадае на сёмую-восьмую ранку. Вось чаму ранішнія "разборкі" ў транспарце самыя эмацыйныя, вось на што ідзе полавая энэргія нашых людзей. Як сказаў бы дзядулька Фройд — асаблівасьці беларускай нацыянальнай сублімацыі...

Яшчэ ўлетку пачалося будаўніцтва царквы, адзінай на ўсю левабярэжную частку гораду. А будуюць яе на... былым балоце, насыпаўшы, праўда, на тарфянік ладную "падушку" зь пяску. Даўней цэрквы ставілі на ўзвышку, бліжэй да Бога, але сучасныя сродкі камунікацыі, пэўна, паляпшаюць сувязь ня толькі між людзьмі: маючы добры мабільнік, нават з балота можна дазваніцца куды хочаш...

Новая "эўра"-крама ў цэнтры паўднёвабеларускага гораду. Юная паляшучка, якая наўрад ці помніць савецкія часы, зважыўшы мне цукеркі, мэлянхалічна чакае, не зважаючы на чаргу, пакуль я іх зьбяру і расьпіхаю па кішэнях. А за 60 км на поўдзень, ва Ўкраіне, гандляркі ня толькі пакуюць тавар у бясплатныя пакеты, але й абавязкова скажуць вам "дзякуй". Дык дзе ж лепш жывуць?

Са сьцяны мясакамбінату здымаюць вялікія драўляныя літары — апошні постперабудовачны лёзунг. У 94-м замест хрэстаматыйнага "Народ і партыя адзіныя" тут зьявілася апалітычнае "Человек слаўны працай". Жартаўнікі прапаноўвалі працяг лёзунгу: "...кабан — салам, а карова — маслáмі!" Але іх не паслухалі, і вось — не прайшло і 7 год, як маслы ды сала пайшлі на спад і мясакамбінату ня стала чым "славіцца". Загружаны на трацiну, ён усё больш нагадвае камуністычнага дыназаўра, які дажывае апошнія дні ў "краіне Мальбара", сярод "піраній" і "акулаў" новага часу.

Ё-Лу-Пень! Якое ёмкае беларускае слова! Гэта пра таго, хто сукаваты і лысы, сухі і непадатлівы, як яловы камель. Сякера і піла яго абыходзяць, і чалавек ня любіць: яму што ў лоб, што ў лабэшнік — усё адно.

Беларуская зіма: то сьнег, то дождж, то хлюпа, то мароз — вечныя ваганьні вакол "нуля". Пэўна, такі ўжо наш лёс — жыць на мяжы холаду і цяпла, балянсаваць між Захадам і Ўсходам, хістацца і палавініцца, сыходзіць і вяртацца... Вось і аўтарытарызм наш даволі "дэмакратычны", і дыктатар — з "чалавечаскім ліцом", і выбары бываюць рэгулярна... А можа, у *NATO* і з калгасамі бяруць? Узялі б, хоць дзеля экспэрымэнту...

**Васіль Аўраменка, Магілёў**

# Студзень

## Кастусю Рамановічу — 75

**1 студзеня 1927 г. у вёсцы Лозкі (Наваградчына) нарадзіўся Кастусь Рамановіч.** Падчас нямецкай акупацыі ён быў сябрам Саюзу беларускай моладзі, а ўвесну 1944 г. вучыўся ў менскай афіцэрскай школе БКА, дзе *"прыняў прысягу на вернасьць Беларусі (гэта была першая і апошняя прысяга)"*. Саветы прыпомнілі яму ўдзел у СБМ, выслаўшы пры канцы 1944 г. на тры гады ў Варкуту. У 1946 г. Рамановіч вярнуўся на Бацькаўшчыну і ў тым самым годзе ўзяў удзел у заснаваньні Саюзу вызваленьня Беларусі — моладзевай падпольнай патрыятычнай арганізацыі, што ставіла мэтай змаганьне за незалежнасьць Беларусі. Галоўным сродкам змаганьня была антысавецкая агітацыя. У траўні 1947 г. СББ разграмілі органы бясьпекі. 18 сяброў атрымалі тэрміны зьняволеньня ад 8 да 25 гадоў. Рамановічу далі 10 гадоў лягераў. У Беларусь вярнуўся толькі ў 1972 г., пасяліўся ў Пінску. Зараз Кастусь Рамановіч бярэ актыўны ўдзел у ТБМ, сацыял-дэмакратычным руху, друкаваўся ў незалежнай прэсе з успамінамі пра СБМ і СВБ. Быў ён летась на зьезьдзе беларусаў сьвету. Іхная група былых СБМаўцаў (Кастусь Рамановіч, Надзея Дземідовіч, Вера Касмовіч, Янка Жамойцін) трымалася адасоблена. Было што паўспамінаць.

## Бронюсь, куды ты ідзеш?

**1 студзеня 1927 г. у цягніку Віцебск—Менск быў арыштаваны драматург і рэжысэр Францішак Аляхновіч.** У сярэдзіне лістапада 1926 г. Аляхновіч перабраўся зь Вільні ў Менск — будаваць "беларускі дом". Напярэдадні пераезду ў Менск яму прысьніўся дзіўны сон: *"Здавалася... што ідзе вуліцамі Менску. Але ў сьне пачуцьцё было зусім іншае. Адчуваў нейкі неспакой, страх чагосьці. Знаёмыя ўцякалі ад яго. Ён гнаўся і ня мог здагнаць. Цяжкое пачуцьцё самотнасьці, бясьсільнасьці, непарадчасьці"*. Франца Аляхновіча выслалі на 10 год на Салаўкі. Ён адседзеў 6 год, у 1933-м яго абмянялі на Браніслава Тарашкевіча. На памежным пераходзе ў Коласаве ён кінуў Тарашкевічу: "Бронюсь, куды ты ідзеш?". Тарашкевіч не паслухаўся, пайшоў у савецкі рай, дзе і згінуў, а Аляхновіч вярнуўся ў Вільню і напісаў мэмуары "У капцюрох ГПУ", якія пераклалі на 7 эўрапейскіх моваў. Любові савецкіх гісторыкаў ён не здабыў нават пры незалежнай Беларусі, бо падчас нямецкай акупацыі рэдагаваў *Biełaruski hołas*, што і зараз кваліфікуецца як супрацоўніцтва з фашыстамі.

## Успаміны Францішкі Сокалавай пра Хартыю'77

**1 студзеня 1977 г. у Чэхаславаччыне створаная "Хартыя'77"**, дакумэнт, які канстатаваў адсутнасьць правоў чалавека ў краіне.

Беларусістка Францішка Сокалава, дачка аднаго з кіраўнікоў Хартыі Яна Патачкі, згадвае для Беларускай службы радыё "Свабода": "Подпісы зьбіраліся на такія маленькія лісточкі, якія складаліся ў картатэку. Подпісаў прыбывала і прыбывала, а ўлады, кампартыя проста былі ўражаныя, ня ведалі, што рабіць, ня мелі інструкцыяў. Потым распачалі проста тэрор, як бы адбывалася нешта страшнае — што імпэрыялісты скарысталі групу прадажных адшчапенцаў, каб дзяржаву давесьці да хаосу. Былі гэтым запоўненыя ўсе газэты, але яны зусім не пісалі, што ў тэксьце Хартыі наагул ёсьць. Таму ва ўсіх установах, школах, прадпрыемствах ладзілі масавыя сходы, дзе людзям чыталі пару нейкіх фразаў пра групу прадажных адшчапенцаў, і ўсе гэта мусілі асудзіць і падпісаць. Быў вялікі ціск на членаў сем'яў, каб адракліся ад сяброў Хартыі: былі, напрыклад, такія, што адракаліся ад брата і пісалі пра гэта публічна ў газэту. Вельмі хутка быў зьнявольны Вацлаў Гавэл, і таму мой бацька пераняў кіраўніцтва... Бацьку вельмі часта дапытвалі. Ён пасьля тых допытаў прыходзіў да мяне, жартаваў. Я ж за яго вельмі баялася, усе мерала сваім жаночым розумам і казала яму: нашто вы гэта робіце, нашто ўлады так раздражняць, што, калі ўсё скончыцца дрэнна, што, калі вас усіх ліквідуюць? Я яму казала, што зараз не палітычнае пацярпленьне, а палітычнае пахаладаньне. А бацька сьмяяўся, паляпваў мяне па плячы і казаў: "Ну, ну, вы яшчэ да гэтага дажывяцё". "Да чаго?" — пыталася я. — "Ну, да свабоды, вядома!"

## Кат-сталініст

**8 студзеня 1902 г. нарадзіўся савецкі дзяржаўны дзеяч Георгі Маленкоў.** Улетку 1937 г. ён узначаліў камісію па праверцы беларускай партыйнай арганізацыі. На ліпеньскім пленуме ЦК КП(б)Б Маленкоў выступіў з дакладам аб наяўнасьці ворагаў народу ў беларускай кампартыі. Даклад справакаваў беспрэцэдэнтную хвалю рэпрэсіяў. Прыкладам, былі зьняты з пасады 1-га сакратара Васіль Шаранговіч, першы кіраўнік-беларус ЦК КП(б)Б. Месяцам раней застрэліўся камуніст-рамантык Алесь Чарвякоў.

## 25 гадоў са сьмерці Ліцьвінкі

**10 студзеня 1977 г. у Кліўлэндзе памёр** беларускі эміграцыйны дзеяч і актывіст прыходу Жыровіцкае Маці Божае БАПЦ Уладзімер Ліцьвінка.

## Разгром Грамады

У ноч з **14 на 15 студзеня 1927 г.** польскія ўлады распачалі арышты сяброў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. На той час Грамада налічвала блізу 120 тыс. чалавек, аб'яднаных у 2 тыс. гурткоў. Арыштавалі блізу 400 чалавек і ўсё кіраўніцтва. Грамада шчодра фінансавалася Камінтэрнам, таму мела грошы на разьвіццё дзейнасьці. "Чырвоныя" грошы траплялі ў Вільню цераз банк, якім кіраваў будучы лідэр беларускіх калябарантаў Радаслаў Астроўскі.

## Беларускі камікадзэ

**17 студзеня 1927 г. у вёсцы Воля на Івацэвіччыне нарадзіўся Мікола Гойшык.** Падчас апошняй вайны ён быў падрыўніком брыгады імя Дзяржынскага. Уласнаручна пусьціў пад адхон 7 нямецкіх цягнікоў. 24 красавіка 1944 г. партызанам не ўдалося замінаваць рэйкі, дзе мусіў праходзіць эшалён з танкамі і гарматамі. Тады Гойшык кінуўся пад поезд, абвязаўшы сябе мінамі.

## Бібліятэкар з Капаткевічаў у Вэрсалі

**19 студзеня 1802 г. у Капаткевічах (сёньняшні Петрыкаўскі раён) нарадзіўся Гіпаліт Клімашэўскі, пісьменьнік і бібліятэкар.** У маладыя гады ён вывучаў філязофію ў Віленскім унівэрсытэце, а ў 1831 г. браў удзел у Лістападаўскім паўстаньні. Уніакаючы арышту, Клімашэўскі мусіў эміграваць. Тады палітычным прытулкам уцекачоў зь Беларусі была Францыя. Клімашэўскі атабарыўся ў Вэрсалі, дзе ў 1841 г. разам з сябрамі заснаваў таварыства Віленскай бібліятэкі й стаўся яго першым загадчыкам. Бібліятэку назвалі Вэрсальска-Віленскай. Меркавалася, што яна станецца фундамэнтам для Віленскага ўнівэрсытэту на эміграцыі. У 1865 г. у сховішчах бібліятэкі знаходзілася 21 тыс. тамоў кніжак, 5 тысяч малюнкаў і гравюраў, 2 тыс. геаграфічных мапаў і больш за 500 рукапісаў. У 1874 г. Клімашэўскі памёр, а бібліятэку перавезьлі ў Польшчу. Спачатку ёй апекаваліся Дзялынскія, пасьля Замойскія. У 1925 г. бібліятэку перадалі дзяржаве. Сёе-тое з сабранага Клімашэўскім можна зараз знайсьці ў Нацыянальнай бібліятэцы, што ў Варшаве.



## Далучальнік уніятаў

**22 студзеня 1802 г. у Сяхновічах (Жабінкаўшчына) нарадзіўся будучы сьвятар і япіскап Ігнацы Жалязоўскі.** Ён падпісаў акт 1839 г. аб далучэньні ўніяцкай царквы да праваслаўнай, а пасьля паўстаньня 1863 г. актыўна спрыяў закрыцьцю касьцёлаў. Затое падчас сьвятарскай дзейнасьці ў Горадні Жалязоўскі клапаціўся пра захаваньне Каложы, зьбіраў бібліятэку і заснаваў стыпэндыю для дзяцей-сіротаў, навучэнцаў Віленскай духоўнай сэмінарыі.

## Аляксандар

**24 студзеня 1827 г. у фальварку Кунгулка (Лідчына) нарадзіўся Аляксандар Далеўскі**, які ў 1846 г. разам з братам Францішкам заснаваў у Вільні "Братні саюз літоўскай моладзі". Гурткі агітатараў саюзу ўзьніклі скрозь па Заходняй Беларусі. Хлопцы рыхтаваліся да паўстаньня, пачалі ліць кулі ў Бараўлянах. Царская шпегі выкрылі арганізацыю, і 25 сакавіка 1849 г. пачаліся арышты. Арыштавалі чалавек 200. Аляксандар вярнуўся ў Вільню пасьля 10 гадоў сібірскай катаргі і ў 1862 г. памёр ад сухотаў. Францішак яшчэ ўзяў удзел у паўстаньні Каліноўскага, за якое атрымаў 20 гадоў катаргі. Адседзеў, пераехаў у Варшаву, пражыў яшчэ 20 год. Трэці брат, Канстанцін Далеўскі, ад рэпрэсіяў Мураўёва зьбег у Францыю. У часе Парыскай Камуны яго расстралялі вэрсальцы. Іх сястра Апалёнія разам з мужам Зыгмунтам Серакоўскім таксама брала ўдзел у паўстаньні, была высланая, вярнулася, напісала ўспаміны пра братоў.

## Зямляк Статкевіча

**24 студзеня 1952 г. у Мэльбурне скончыў жыцьцё самагубствам палкоўнік БКА Сьцяпан Шнэк.** Сьцяпан Шнэк нарадзіўся на Случчыне ў вёсцы Лядна (там, дзе й Мікола Статкевіч). Скончыў Вайскова-палітычную акадэмію ў Ленінградзе (1936) і атрымаў прызначэньне ў Чыту кіраўніком дому партыйнай асьветы. У 1938 г. зь невядомых прычынаў Шнэка звольнілі, і ён вярнуўся ў Слуцак, дзе працаваў настаўнікам матэматыкі й вайсковай падрыхтоўкі.

Падчас нямецкай акупацыі Сьцяпан Шнэк узначаліў слуцкую паліцыю. У сакавіку 1944 г. прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі прызначыў яго начальнікам БКА па Слуцкай акрузе. На Вялікдзень 1944 г. Сьцяпана і ягонага сына Ўладзімера Шнэка арыштавала слуцкае СД, і толькі асабістае заступніцтва Астроўскага выратавала іх ад немінучай сьмерці.

Улетку 1944 г. Шнэкі пакінулі Беларусь. Пасьля шасьці гадоў бадзяньня па лягерах для палонных яны перабраліся ў Аўстралію. Жыцьцё ў Аўстраліі было цяжкое, Шнэк працаваў на дрэванарыхтоўках, зарабляючы 7 фунтаў у тыдзень і тулячыся ў драўляным бадачыку, больш падобным да сабачага.

## Кіраўнік партызанаў

**25 студзеня 1902 г. нарадзіўся Пётра Калінін**, савецкі дзяржаўны й партыйны дзеяч. У часе другой сусьветнай вайны ён кіраваў Беларускім штабам партызанскага руху (камуністычнага).

## Бітва на Альшанцы

**27 студзеня 1527 г. адбылася бітва пры рацэ Альшанка, што між Кіевам і Каневам.** Узімку 1526—27 г. на Палесьсе ўварвалася 20-тысячная арда крымскіх татараў. Нарабаваўшыся і захапіўшы дзясяткі тысячаў палонных, яны рушылі назад. Вялікі гетман Канстанцін Астроскі хуценька склікаў войска, нагнаў крымчакоў ля Кіева і разьбіў іх ушчэнт. Палонныя ліцьвіны былі вызваленыя. Альшанская бітва стала апошняй для Канстанціна Астроскага.

## Мая партыя — Хрыстос

**27 студзеня 1927 г. у Каўнасе памёр Юры Матулевіч (сапр. Юргіс Матулайціс).** У сьнежні 1918 г. Папа рымскі прызначыў сьвятара Юр'я Матулевіча віленскім біскупам. Прадстаўнікі розных палітычных партыяў імкнуліся перацягнуць яго на свой бок, але Матулевіч падчас сваёй першай біскупскай імшы адрэзаў: "Мая партыя — Хрыстос. Для мяне ўсе роўныя — што беларусы, што палякі, што літоўцы". Быў адным зь першых біскупаў, які вывучыў беларускую мову.

## Клясык філязофіі

**28 студзеня 1777 г. памёр Антоні Скарульскі, філёзаф і асьветнік, ксёндз-езуіт.** Скарульскі выкладаў гісторыю й філязофію ў езуіцкіх навучальных установах, быў рэктарам калегіюмаў у Навагрудку і Коўне. У 1772 г. ён стаў рэктарам Віленскай акадэміі. Асноўная праца айца Антонія — "Камэнтары па філязофіі, альбо лёгіцы, то бок мэтафізыцы, агульнай і адмысловай фізыцы". Кнігу надрукавалі ў Вільні ў 1755 г., і яна доўгі час лічылася ў Вялікім Княстве клясычным падручнікам па філязофіі.

**Алег Гардзіенка**

## дзе варта быць

### Вялікі гандбол

**У нядзелю ў Менскім палацы спорту вялікі гандбол: Беларусь — Літва.** Каманда, якая пераможа, у чэрвені згуляе зь пераможцамі ў іншай кваліфікацыйнай групе. Перамога ў чэрвенскім матчы дасьць магчымасьць гуляць на Чэмпіянаце Сьвету ў 2003 г., дзе беларусаў не было гадоў сем. Між тым, гадоў 12—15 таму менскі СКА быў наймацнейшай клюбнай камандай у Эўропе. Пасьля 4 гульняў літоўцы маюць 8 пунктаў, беларусы — 6 пунктаў. Лёс першага месца вырашыцца ў двух матчах зь літоўцамі. Нам трэба як мінімум тры пункты: нічыя і перамога. Першы матч 24 студзеня ў Каўнасе. Калі беларусы не прайграюць, усё вырашыцца ў нядзельным матчы, на які могуць быць аншляг і сьцягі.

Пачатак гульні а 16-й, дарослы квіток каштуе 3 тыс., дзіцячы — 1 тыс. Дарэчы, у канцы 80-х матчы менскага СКА з каўнаскім "Гранітасам" былі самыя зацятыя: біліся суседзі да апошняй сэкунды.

### Зброя ВКЛ

**24 студзеня а 18-й грамадзкае аб'яднаньне "Гісторыка" запрашае ўсіх ахвотных на чарговае пасяджэньне Клюбу па актуальных пытаньнях гісторыі.** Віктар Масяйчук прачытае даклад "Агняпальная зброя ВКЛ канца XIV — першай чвэрці XVII ст." Аматараў зброі ды гісторыі чакаюць у аўдыторыі № 29 гістфаку БДУ (Чырвонаармейская, 6).

### Карціны Сьветлай Зоі

**У Полацкім гістарычна-культурным музэі-запаведніку адбываецца выстава акварэляў менскай мастачкі Зоі Луцэвіч.** Наведаць выставу і бліжэй пазнаёміцца з творчасьцю Зоі варта было б ня толькі аматарам жывапісу, але і тым, хто аддае перавагу беларускай музыцы: і да яе Зоя мае ўскоснае дачыненьне. З аднаго боку, праз свайго мужа — гітарыста гурту *NRM* Піта Паўлава. Зь іншага — праз вядомую песьню гурту "Крыві" "Сьветлая Зоя", прысьвечаную менавіта Зоі Луцэвіч.

### Выставы ў Менску

**Беларуская акадэмія мастацтваў запрашае на выставу польскага плякату "Даляглядаы жанраў".** На ёй можна пабачыць 39 найлепшых кіна- і тэатральных плякатаў вядомых польскіх мастакоў-графікаў. Працуе выстава да 15 лютага.

Да 18 лютага ў Нацыянальным музэі гісторыі й культуры Беларусі працуе выстава "Пэрсанажы пэкінскай опэры". На ёй можна пабачыць 60 тэатральных вобразаў пэкінскай опэры ў трохмерных мініяцюрах, якія дэманструюць сцэны з 37 клясычных спэктакляў. Асноўны акцэнт зроблены на шыкоўнасьць унікальных касьцюмаў пэкінскай опэры.

### Выстава ў Горадні

**У Галерэі Тызэнгаўза адкрылася выстава "Вобразы сыходнага стагодзьдзя".** У асобнай залі месяцца творы мастакоў, якіх ужо няма, — Міхаіла Плужніка, Івана Пушкова і Анатоля Сільверстава. На выставе можна пабачыць творы, напісаныя да 1980 г. Прыкладам, сквэр на плошчы Батуры без савецкага танку. Таксама ёсьць заля пэйзажаў і нацюрмортаў.

**В.Г.**

**З Новага году "НН" ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ. У Менску ў шапіках гэты пятнічны нумар можна купляць ужо З АБЕДУ ЧАЦЬВЯРГА.**

# СЭРВІЗАМ ПА РЭЖЫМЕ

## мэлянхалічная пародыя

Я сядаю на *camel* і еду ў *Vorstadt* купляць *Kitecat*. Ня хоча мой кот, гэтакі банет, есьці рыс зь мясам ды зь пячуркамі, а таксама і гарбушу, што так прыемна ружавее ў нашым улюбёным *Zepter*.

Мушу адкрыць чытачу мой *big secret* — я, вядома, еду не на вярблюдзе. Вядома, так было б выгодней: едзеш павольна, з вышыні аглядаеш навакольле і пяеш пра ўсё, што бачыш, — бы той акын. Але насамрэч я еду тралейбусам, а пра *camel* напісаў, бо так больш прыгожа. Я наагул люблю ўсё прыгожае. Узяць, да прыкладу, нашыя жаночыя імёны — Валянціны, Сьвятланы, Марыі, Таціяны. Нейкі чытач мог бы падумаць, што мы тут маскалі якія. Таму засялю сваю зацемкі Сабінамі, Мажэнамі ды Вандамі, а Юрку пакіну для калярыту. І сябе не пакрыўджу —назавуся Севярын Банавэнтура.

Дарэчы, трохі аналітыкі. Пра *Kitecat*. Пры камуністах для нашых катоў і котак ён быў недасяжны. Хіба што хто прывозіў патаемна зь Беластоку. А зараз? Здаецца, нашыя каты, каб іх хто дапусьціў да ўдзелу ў галасаваньні, сказалі б сваё рашучае "не" нялюдзкім камуністым.

Тым часам імкненьне да пекнага штурхае маё стыло *over and over* распавядаць пра грудкі разынак, курагі, фінікаў, гарэхаў, вінаграду, цытрусавых, каву розных гатункаў, у вакуумных пакунках і ў зярнятах, у бляшанках і кардонных скрыначках, у стылі каляніяльных тавараў, пра... Ёсьць, ёсьць ува мне штосьці флямандзкае, з залатога веку!

Але грамадзянскае пачуцьцё перасільвае. Вяртаюся думкамі да падзеяў на выбарах. Дождж. Напаўпадпольная канфэрэнцыя. Лічбы і факты. Парушэньні і перасьлед. Затрыманьні на вуліцы, у натоўпе. Начныя ператрусы. Ордэры, пратаколы. Зброя, бронегарсэты, шлемы. Адчуваньне, што зараз прыйдуць і па цябе. Карацей, у паветры, здаецца, запахла смажаным.

Маланкай працінае думка — я ж прачытаў сьціслую натацыю сябрам выбарчай камісіі, якія хадзілі па кватэрах! Каб яны там у камісіі глядзелі! Каб абралі нармальнага прэзыдэнта, бо гэтым усе сытыя па горла! І вось табе маеш!

Але ня ўсё страчана — нашая сям'я вынайшла патаемную зброю. Мы так дамовіліся: рабіць сабе прыемнасьці. Хай сабе сьвяткуюць. А мы пойдзем у добрую краму, купім сабе французкі сэрвіз. Сядзем за сталом у пакоі, паставім новыя кубкі, зварым кавы, уключым тэлевізар. А *яны* нянай пэнкнуць ад злосьці!

Адно што гэтую патаемную зброю ўвесь час даводзіцца ўдасканальваць. Ходзяць чуткі, што абяручь *нашага* на трэці тэрмін. Хіба ўжо давядзецца купляць *jeep*? А значыць — трэба больш працаваць! (Езус Марыя! Гэта ж мне пільна трэба да майго сьціплага *notebook* на 2 мэгабайты — мэсыджы чытаць!)

Але ніколі ўва мне ня сьпіць дапытлівы розум аналітыка — чаму ж людзі, прынамсі падшпаркі й пэнсіянэры, не зьбіраюць і не ядуць алычы ды іншай садавіны з дрэваў, якімі засаджаны наш рамантычны горад?

**Севярын Банавэнтура, Горадня**

### Наступны нумар "НН"

**выйдзе 1 лютага, у пятніцу.**

Бо "НН" выходзіць у пятніцу. У Менску ў продажы — з чацьвярга абеду.

У нумары:
- "Сялянка": 150 гадоў беларускай опэры
- Беларускі гімн: тэма нумару
- Scherzo Евы Вежнавец "Візыт архіварыюса"




АНДРЭЙ СЬЦЯПУРКА

# Чын з Паўночнай Карэі

У інстытуцкія часы я меў сябра з Паўночнай Карэі. Звалі яго Чын. Аднойчы Чын на маё запрашэньне прыехаў у Пінск. Мае бацькі жывуць недалёка ад цэнтру ў старой драўлянай хаце, пабудаванай яшчэ ў міжваенны час. (Дарэчы, хата месьціцца на вуліцы Пралетарскай, якая за палякамі мела абсалютна супрацьлеглы, у клясавым сэнсе, назоў — "Панская".) Чын паглядзеў на паточаныя шашалем сьцены майго жытла ды сказаў: "Слухай, апранаешся ты сьціпла, а насамрэч — вельмі заможны чалавек, калі ў цэнтры гораду можаш дазволіць сабе пабудаваць аднапавярховы драўляны дом, замест таго, каб жыць у хмарачосе. Зямля ж у цэнтры мусіць быць жахліва дарагая!" Ну як яму патлумачыш, што зямля ў нас ня можа быць прыватнай уласнасьцю? Нават у Пінску.

* * *

Калі была нагода выпіць і ўсе сядалі пры стале, Чын заўсёды перапрашаў, прасіў пачакаць, ускокваў ды бег у краму па сьмятану. Ён запіваў беларускую гарэлку толькі беларускай сьмятанай... У Паўночнай Карэі пра сьмятану ня ведаюць.

* * *

Аднойчы ў інстытуцкім інтэрнаце мы зьбіралі хто што мае на вячэру. Алесь, наш сусед па пакоі, дастаў рагу ў паўлітровым слоіку.

Чыну спадабалася рагу, і ён спытаў у Алеся, дзе той яго купіў.

— З дому прывёз, — адказаў Алесь.

— У Воршы такое прадаюць?

— Не, маці прыгатавала.

— Як гэта прыгатавала?! Ты што маеш *машыну* да закатваньня слоікаў?! Дзе ты яе трымаеш? Гэта ж толькі вялікія фірмы, што займаюцца кансэрваваньнем, маюць такое абсталяваньне!

**Аляксей Дзікавіцкі, Варшава**

**Прадаю:**
Кнігі — поштай: М.Раманюк "Беларускія народныя крыжы", З.Пазьняк "Глёрыя Патрыя", зб. тв. У.Караткевіча ў 8 т. і інш.
Вышлю каталёг: 220030, Менск-30, а/с 195, Яну; http://book2002.narod.ru; jancit@tut.by;
Тэл.: 258-43-54.

## КОШТЫ

### на платныя прыватныя абвесткі (для прыватных асобаў, на старонку 16):



**Рэклямныя расцэнкі:**
— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 228 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 288 руб.
— афармленая абвестка — 144 руб. за кв.см.
— афармленая абвестка памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 186 руб. за 1 кв.см.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: УНП 101115521, рэдакцыя газэты "Наша Ніва", 220600, Менск, вул. Калектарная, 20-а, п. 2-а. Р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ "Белінвэстбанк" Менску, код 763. **На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары "Для пісьмовых паведамленьняў" запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: "За рэклямныя паслугі".**

# United World Colleges

Беларускі камітэт каледжаў міжнароднай супольнасьці абвяшчае конкурс на атрыманьне стыпэндыяў у Міжнародных каледжах у Нарвэгіі й Італіі і на ўдзел у міжнародным сэмінары па прадпрымальніцтве "Бізнэс-тыдзень" у Цэнтральным вашынгтонскім унівэрсытэце (ЗША).

Век абітурыентаў — 16–17 гадоў (16 гадоў павінна споўніцца да 1 верасьня 2002 г.).

На першы тур абітурыенты павінны даслаць да 15 лютага 2002 г. заяву, пазначыўшы свой адрас, кантактны тэлефон і нумар школы, даведку аб стане здароўя, ліст пасьпяховасьці за мінулы і гэты навучальныя гады, зьвесткі аб удзеле ў вучнёўскіх алімпіядах, мастацкай самадзейнасьці, спартыўных сэкцыях, копіі грамат, дыплёмаў, публікацыі ў прэсе і іншыя дакумэнты, якія сьведчаць пра навуковую і творчую дзейнасьць.

**Дакумэнты на конкурс просім дасылаць на адрас: Менск, вул.Кірава, 21, з пазнакай "Конкурс". Тэлефон для даведак: 227-32-77.**

## Прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Віншую Тамару Ільлінічну Канстанцінаву** з Днём народзінаў. Шчасьця, здароўя, квецені-буяньня!

**Гісторыка і Жыцьцялюба** Гаспадара Георгія Штыхава з 75-годзьдзем у 2002 г.! Натхненьня і плёну!

**Дарагі Гаспадару Алесь Быцькоў!** Радасна вітаю Вас з нараджэньнем яшчэ аднаго сына — Уладзіслава! Шчасьця, Багацьця, Здароўя!

**Земіцька**, са сьвятамі! Зычу посьпехаў у пошуку сэнсу жыцьця. Хвіл

**Прывітаньне маёй былой 119-й школе** і асабіста Ціхановіч Ірыне Леанідаўне. Я на Вас не забылася. Посьпехаў Вам. Котачка-першакурсьніца

**Віншую Беларускі ліцэй** і ўсіх яго выкладчыкаў зь дзесяцігодзьдзем! 11 група ў асобе Котачкі-першакурсьніцы

**Віншую з Днём нараджэньня** яснавяльможнага пана Уладзімера Сабалеўскага! Посьпехаў у вывучэньні клясычнага правапісу. Г.Т.

### ідэі

**Нацыя адродзіцца** толькі тады, калі кожны Беларус адродзіць у сабе пачуцьцё годнасьці і шляхетнасьці! Белы Легіён. 207-00-00, аб.4979

**Я табе кажу**: "Да пабачэнія,
Ты мая любая Чачэнія!"

**Дапамагу пачаць уласную справу** ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: а/с 122, Менск-89, 220089.

### кантакты

**Дзянісе Кі** Адгукніся. В.Р.

**Дзякую спн.Навумчык** на за спакойную, пераканаўчую водпаведзь "вялікаму" філёзафу-чыньніку Чобату. Беларус

**Шукаю дапамогі беларускіх музыкаў** у справе запісу гімну Беларусі з сучаснымі словамі. Уладзіслаў Жыгалка

**Цікавы мужчына** шукае актыўных сяброў сярод вайскоўцаў ці міліцыянтаў. А/с 78, 220141, Менск

**Ідзе падрыхтоўка** па стварэньні Цэнтру вывучэньня *Skinheads*. Пішыце — будзем удзячныя за любую інфармацыю. А/с 18, Берасьце-23, 224023

### пераклады

**Пераклады зь нямецкай/ангельскай** мовы. Пэйдж. 211-85-85, аб.25402

### кнігі, музыка

**Хрысьціяне Беларусі!** Дапамажыце, калі ласка, парадай — дзе знайсьці Біблію на роднай мове! Жодзіна, пр.Міру, 19-405

**Запісы гурту "Стары Ольса"** — "Келіх Кола", "Вір", іншыя запісы, відэа, аўдыё, паштоўкі, значкі. Т.: 220-68-74 (у будныя дні)

**Альбомы з сэрыі "Беларускі Музычны Архіў"** (на CD і аўдыё) можна набыць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**У Гомелі ёсьць альбом** "*Hard Life — Heavy Music*" (на CD і аўдыё). Т.: 45-11-51

**Аўдыё, відэа, паштоўкі, іншае** — фольк, фольк-рок, пастфольк, сярэднявечча, рыцарства. Т.: 220-68-74

**БМА прапануе**: каляровы плякат "Крамы" з календаром на 2002 г., *metal*-праект "*Hard Life — Heavy music*", альбом "Крамы" "Хавайся ў бульбу", альбом "Сэрца Эўропы *in rock*", дыскі Сяржука Сокалава-Воюша і Міколы Равенскага і інш. а/с 5, Менск, 220085. Пэйдж.: 211-85-85 (аб.БМА). Т.: 8-0296-49-08-88. www.BMA.home.by, wital@tut.by

### ложак

**Аддам ложак** для немаўляці (бяз колцаў). Т.: 256-71-65

### прадаю

**Бутэлькі** (пустыя) зялёныя і карычневыя, не таньней чым 60 рублёў за штуку (агулам каля 500 шт.). Гэта, на жаль, ня жарт. Т.: 221-21-81

**Майкі** "Крама — Хавайся ў бульбу!" Т. (у Гомлі): 45-11-51

## НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

## Паштовая скрынка



**Сяргею К. зь Менску.** Тыражы беларускамоўных газэт у параўнаньні з тыражамі расейскамоўных адлюстроўваюць больш чым што рэальную палітычную вагу людзей беларускай культуры ў нашай дзяржаве. Тут раздзьва рэформамі нічога ня зьменіш, патрэбная шматгадовая руплівая праца. Свой жа праект апішыце больш падрабязна.

**Яну Н. з tut.by.** Кабан — вобраз, блізкі многім беларусам, нешта шчымлівае і сытнае, сумнае і радаснае адначасова. Яго гадуюць, а пасьля б'юць, смаляць і разьбіраюць. Зусім як год. Беларускае жыцьцё складаецца ня толькі з увядзеньня эўра, арышту Лявонава ці назіраньня за Іванішавічам, але і з кабанчыкаў, ня толькі з гораду, але і зь вёскі. "НН" чытаюць і ў горадзе, і ў вёсках.

**Аўтару тэксту "Трынаццаць год таму быў крок наперад..."** Вы забыліся падпісаць артыкул. Непадпісаны мы яго ня можам надрукаваць. Калі ня хочаце ставіць сваё сапраўднае імя, паведамце нам псэўданім.

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**

 Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3847.

Нумар падпісаны ў друк 24.01.2002.

Замова № 426.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а